# Што згубілася між радкоў?

**Калі ўзяць за сярэдні лік па тры публікацыі прозы і паэзіі на нумар, атрымаем 216 імёнаў на год — і гэта толькі ў часопісах «Полымя», «Маладосць» і «Нёман». Зразумела, пры такім раскладзе ўсе творы ўпомніць немагчыма. Але мы паспрабуем згадаць найлепшыя публікацыі.**

## КАЗАЧНАЯ «МАЛАДОСЦЬ»

Яна апраўдвае сваю назву: сярод найярчэйшых аўтараў часопіса збольшага якраз літаратурная моладзь. Але далёка не дэбютанты. Прыкладам, ужо ў другім нумары 2016 года была апублікаваная паэтычная нізка Таццяны Сівец. Як і раней, прыярытэтнай тэмай застаецца каханне, але гучанне верша робіцца ўсё больш іранічным, калі не сказаць — трагічным. Ёсць у іх нешта фатальнае, быццам гераіня ў пошуках шчасця загадзя ведае, што фінал будзе не самы вясёлы. І ўсё ж не апускае рукі. Гэта жанчына, якая ўсведамляе сваю слабасць, і тым моцная. Такі настрой застаецца ў вершах, прысвечаных паэтам.

*Шкада, што ў радзільні жанчыне не кажуць:*
*«Пані, у вас нарадзіўся паэт. Не хочаце напісаць адмову?»*
*…*
*«Гэта не лечаць, шаноўная пані, вы ўпэўнены,*
*што хочаце яго ўзяць дадому?»*
*І калі яна кажа: «Так»,*
*то глядзяць на яе спачувальна,*
*маўляў, дурніца, не ведае, што гаворыць…*

Ёсць у гэтых жартоўных радках вялізная лыжка дзёгцю, усведамленне, што паэта філістар успрымае як блазна — у лепшым выпадку.

Працягваючы тэму добрай паэзіі, згадаем вершы Аляксея Арцёмава, што былі надрукаваныя ў № 5. Класічная форма не замінае яму быць арыгінальным. Датычна спадара Аляксея можна казаць, што гэта сталы паэт, пазнавальны голас, і, сустракаючы імя Арцёмава ў часопісе, вы можаце быць упэўнены: знойдзеце і думку, і дасканалую форму. І гэта пры тым, што паэт не мае сваёй кнігі — пакуль што. Калі казаць менавіта пра маладосцеўскую падборку, тут — маляўнічы венецыянскі пейзаж з вобразам састарэлага дожа (адбітак аўтарскага настрою), прысвячэнне Стральцову, вартае таленту самога Стральцова, інтымная лірыка (з нязменным Арцёмаўскім гумарам), і не-не ды прамільгне вечны запавет — «*memento mori*». Яшчэ адна адметнасць паэзіі спадара Аляксея — ненаўмысная афарыстычнасць. Усё гэта падагрэе жаданне як найхутчэй пабачыць першы зборнік паэта.

Таямнічыя, казачныя, крыху трывожныя — вершы Маргарыты Латышкевіч. Вялікі фантазёр і рамантык, яна высноўвае свет дзівосаў, радок за радком:

*Там, у цёмнае пушчы,*
*Дзе дрэвы стаяць, як слупы,*
*Пераплёўшы карэнне*
*І сукаватае вецце,*
*Секачы сярод моху*
*Вышукваюць жалуды*
*І трывожна ўбіраюць*
*Праз ноздры*
*Духмяністы вецер...*

Падборку «Люстра сну» можна пачытаць у № 7. А ў дзясятым — такая ж казачная, духмяная (водар пушчы, зёлак і старажытнай магіі) аповесць «Вершнікі на дарозе». Улюбёнасць у эльфаў знаходзіць тут яркае адлюстраванне. Пра што б ні казала пісьменніца — пра бяду ці смутак — атрымліваецца ў яе светла, жыццесцвярджальна. А гэта не менш талент за адчуванне стылю ці здольнасць прыдумаць цікавы сюжэт.

Падобнае ўражанне пакідаюць апавяданні Кацярыны Мядзведзевай. «Жыў-быў ты...» і «Чацвёрты, самы чароўны» (№ 5), «Лекі ад кахання» і «Мой дзядзька Лунеш» (№ 9) — усе яны, па вялікім рахунку, пра штодзённую магію. Аповеды спадарыні Кацярыны казачныя, у іх заўжды прысутнічае элемент фантастыкі, але інтуіцыя падказвае, што гэта толькі фармальнасць: такія прыгоды могуць надарыцца і з вамі. Бо галоўнае не існаванне чараўнікоў ці вівераў у рэальным жыцці, а паэтычнае светаадчуванне.

Без фантастыкі зазвычай абыходзіцца дэбютант гэтага года (калі казаць пра часопісныя публікацыі) Юльяна Пятрэнка. Па тых нешматлікіх публікацыях, што мы бачылі летась, ужо можна заўважыць дар апавядальніка, у якім — здольнасць вылучаць значныя і красамоўныя дробязі, адчуваць героя і, галоўнае, небанальна распавядаць пра яго пачуцці. У «Маладосці» пра тое кажуць «Юльяніны байкі» (№ 3), дзе шэрая рэчаіснасць расквечваецца ажылымі беларускімі легендамі. У «Полымі» разгортваем № 7, дзе надрукаванае апавяданне «Чужая вясна» — гісторыя пра тое, як адна недарэчнасць паставіла пад пагрозу шчасце сям'і. У «Нёмане» — апавяданне «Спадчынніца», дзе гэтаксама раскрываецца свет жанчын, маленькіх і ўжо дарослых, сувязь пакаленняў. Гэта ўдалы, шматабяцальны дэбют.

Гэтаксама прыкметным пасля часопісных публікацый стала імя Глеба Ганчарова, прытым як у паэзіі, так і ў прозе. Напачатку ён выступіў з «Апраметнымі навеламі» ў другім нумары «Маладосці». Падборка дэманічных апавяданняў між іншым зазначыла: Ганчароў — эрудаваны аўтар з пачуццём гумару, балагур кшталту Балахонава, які між жартамі задаецца сур'ёзнымі і нясмешнымі пытаннямі. У № 4 Ганчароў аказаўся яшчэ і паэтам, да таго ж, здольным вытрымаць вялікую форму: паэма «Анёл Януш» — адна з лепшых публікацый красавіцага выпуску. У гэтым складаным жанры ён працягвае працу.

«Уцёкі» Валера Гапеева — урывак з ненапісанага рамана, апублікаваны ў № 8. Спроба маленькага чалавека, які хацеў быць вялікім, разабрацца: дзе ж я збочыў не туды?.. *«"Зайздросцяць" — ён чапляўся за такое тлумачэнне, як за выратавальную і надзейную выспу».* Спадар Валер выявіў тут здольнасць амаль што псіхааналізу, і калі чытач ужо здагадваецца, у чым жа праблема героя, той знаходзіцца яшчэ ў наіўным няведанні. Такі ж талент казаць галоўнае між радкоў — у эсэ «Першая крытыка» (№ 7).

І яшчэ адна з найбольш значных публікацый года для «Маладосці» — аповесць Ягора Конева «Андрэй Станкевіч і Таемнае мастацтва», галоўны герой якой прыйшоў са старонак «Чорнага замка Альшанскага» Уладзіміра Караткевіча.

## КОЛА ЎСПАМІНАЎ

Шмат перакладаў з беларускай мовы друкуецца ў «Нёмане». Нядзіўна, што частка з іх трапляе ў лік лепшых публікацый. Гэтым разам — аповесць Віктара Казько «На кручку» і навелы Уладзіміра Сцяпана.

Першая друкавалася ў №№ 9 — 10. Віктар Казько працягвае тэму сіроцкага дзяцінства, якое пераўтварылася ў рамантычнае юнацтва



Ілюстрацыя М. Латышкевіч да аповесці «Вершнікі на дарозе».

і сталасць з прысмакам расчаравання ды пустаты, бо многае з падлеткавых мараў не спраўдзілася. Мінулае вяртаецца да яго ў снах: вобраз вірлівай, непадатлівай ракі — гэта і сімвал бурнага юнацтва, гатовага выйсці з берагоў, і ўласна жыцця, поўнага цёмных віроў і нечаканых зменаў, і самога мінулага, непадуладнага чалавеку. Як той стары з яго вялікай рыбай, герой аповесці змагаецца за мару. А якая мара?.. Пабачыць свет? Стаць вybітным? Жыць напоўніцу кожнае імгненне? Пэўна, усё разам узятае. Пазбаўленыя бацькоў, адчуванне дома, дзеці прагнуць яркага жыцця, натхняюцца прыгодніцкімі кнігамі, і гэтая максімалістычная ўстаноўка робіць з іх марынетак: палымяных дабраахвотнікаў высылалі на цаліну, у дзікія горы, на цяжкія працы, якія падлеткам здаваліся Эльдарада ўражанняў. Дзікая прырода і такія ж непрадказальныя людзі — усё гэта ёсць у аповесці «На кручку».

Дзіцячыя ўражанні пакладзены ў аснову навел Уладзіміра Сцяпана (№ 5). Але ў гэтым выпадку свет дзяцінства замкнёны, засяроджаны на сабе. Гэта дзяцінства ў Доме, з дзядамі і бабулямі, любімымі настаўнікамі, забаўкамі, і ўсё ж — адчуванне страты пануе ў навелах. Усё гэта — мінулае, і святло дзяцінства як бы апаясанае колам смерці. Сыходзяць старыя, і з імі — часткі свету, што здаваўся непарушным. Абвостранае адчуванне жыцця робіцца яшчэ больш выразным дзякуючы стылю Сцяпана — лаканічнаму й абрывістаму, быццам азбука Морзэ. Тры кропкі — тры працяжнікі — тры кропкі. Ціхі, неўміручы сігнал сос па сыходзячай светлыні маленства, па нашых нябожчыках.

Што да арыгінальных рускамоўных тэкстаў, вылучым апавяданне «Час нелюбові» Уладзіміра Хількевіча, што друкаваўся ў № 9 (вельмі небанальнае пераасэнсаванне вайны, зламаная чалавечай псіхалогіі і скалечаная сям'і), ды аповеды Ірыны Шатыронак з № 11. Яе проза ўдала дапаўняе тэму дзяцінства, якая аказалася для «Нёмана» ў мінулым годзе надзвычай папулярнай і самай плённай. Калі для Казько дзяцінства — час змагання за асобу, для Сцяпана — час святла, якое той імкнецца захаваць нязгасным мага даўжэй, то для Шатыронак дзяцінства — час яркіх уражанняў, якія, відаць, у многім прадвызначылі яе як чалавека і аўтара. Яны дазволілі зразумець чалавека і меркаваць пра свет без шэрых стэрэатыпаў.

## НАКІДЫ З НАТУРЫ

Проза стала вызначальнай для леташняга «Полымя». Тут сустрэліся ваенная тэма ў спалучэнні з сямейнай, іранічныя апавяданні і замалёўкі з дзяцінства. Некаторыя прозвішчы паўтараюцца: так, зноў сярод лепшых апынуліся Маргарыта Латышкевіч і Уладзімір Сцяпан. У «Полымі» спадарыня Маргарыта выступіла з кароткай формай: апавяданні «Інструкцыя для хворых», «Муза», «Піястры», «Шчасце», «Быць Каралевай» (№ 7). Усе яны ўвайшлі ў дэбютны зборнік прозы «Яблыкі». Як і ў выпадку з маладосцеўскімі публікацыямі, Маргарыта Латышкевіч глядзіць і на радасці чалавека, і на яго няўдачы з гумарам. Гэта дазваляе прыўзняцца над апісанай сітуацыяй, зменшае маштаб трагедыі ці шчасця, але ўсё на карысць: так на прадмет гаворкі можна паглядзець у цэлым, здалёк.

Вельмі праніклівыя, трапяткія навелы Навума Гальпяровіча (№ 8), у якіх апавядальнік адыходзіць на другі план, хоць і застаецца актыўным удзельнікам апісаных падзей. Галоўны тут — партрэты буйным планам, і чым бліжэй вы разам з аўтарам прыглядаецеся да гэтых мілых дзівакоў, тым больш непаўторных рысаў заўважаеце. Навум Гальпяровіч больш вядомы як паэт, але яго кніга выбранай прозы, асабліва такой тэматыкі, магла б стаць падзеяй у літаратуры ды знайсці нямала чытачоў.

«Жнівень. Запісы, зробленыя ў апошні месяц лета» — так назваў сваю палымянскую падборку Уладзімір Сцяпан (№ 11). Сапраўды, гэта накіды з натуры, трапныя выказванні вяскоўцаў ды развагі аўтара, партрэты, быццам накіданыя чорным вугалем: скупыя й выразныя. Аднак талент навеліста не дазваляе Сцяпану зрабіць толькі накід: заўжды за ціхімі заўвагамі гучыць нешта большае. Прыкладам, пра значнасць зямлі для чалавека, пра каханне, якое не ў гарачых прызнаннях, а ціхім сядзенні ля ложку хворага, у мілым сердаванні й буркатанні. Пра смерць, якая адначасова страшная і будзённая. Пра боль — не толькі фізічны. Прадметы ў гэтых нататках такія рэальныя, што, здаецца, ты можаш памацаць іх. Мова герояў такая натуральная, быццам чуеш усё на ўласныя вушы. Водары саду, бальнічныя пахі, святло ў вялікай палаце і цемра жнівеньскай ночы — усё гэта захапляе, зачароўвае. Проза Уладзіміра Сцяпана — прыклад тае самае прастасці, дасягнуць якой неймаверна цяжка.

Гэтаксама ў прозе «Полымя» за 2016 год вылучаецца апавяданне Васіля Макарэвіча «Сын» (№ 5). Твор невялікі і, тым не менш, змястоўны, прычым не напханы пахуткаму драматычнымі калізіямі, каб расчуліць чытача, але пабудаваны гарманічна, з веданнем тэхнічнага боку справы. Васіль Макарэвіч распавядае гісторыю жанчыны, якая нечакана стала маці — ўратавала чужое дзіця ў час вайны, — а потым гэтак жа нечакана засталася адна, добраахвотна аддаўшы самае дарагое на свеце. Пошукі сына, сумневы, лічы, пякельныя пакуты — аўтар вядзе апісанне ад трэцяй асобы, але ўспрымаючы выпрабаванні і боль гераіні вельмі асабіста. Штопраўда, у Васіля Макарэвіча своеасаблівая мова, месцамі хочацца яе «абеларусіць», але з часам вы прызвычаіцеся да стылістыкі аўтара, заглыбіўшыся ў сам аповед. Як і ў выпадку з Навумам Гальпяровічам, хацелася б прычакаць кнігу прозы аўтара.

**Наста ГРЫШЧУК**

Калі Вы не згодныя з выбарам рэдакцыі, маеце альтэрнатыўны рэйтынг часопісных публікацый за 2016 год, калі ласка, дасылайце лісты на адрас *nastalit@gmail.com*. Радыя ўсім водгукам.

# ЖЫЦЦЁ ВА ЎСЁЙ ШМАТГРАННАСЦІ

## Да 70-годдзя Георгія Марчука

**Празаікі звычайна ўваходзяць у літаратуру апавяданнямі. Ды нездарма кажуць: няма правіла без выключэнняў. Так сталася і пасля публікацыі ў 1981 годзе ў часопісе «Полымя» рамана Георгія Марчука «Крык на хутары». Пра маладога пісьменніка, а яму на той час не было яшчэ трыццаці пяці гадоў (нарадзіўся 1 студзеня 1947 года ў Давыд-Гарадку, цяпер Столінскі раён), загаварылі ці не ўсе.**

Безумоўна, не абышлося і без звычайных зайздроснікаў. Маўляў, адразу раманістам вырашыў стаць. Не прамаўчалі і штатныя крытыканы, якім увогуле нічога не падабаецца ні ў жыцці, ні ў літаратуры. Аднак тых, хто не прыняў раман «Крык на хутары», аказаліся адзінкі. Прыхільнікаў было куды болей. Нават Васіль Быкаў не прамінуў падзяліцца з Адамам Мальдзісам, які таксама высока ацаніў твор, такімі меркаваннямі: *«А я думаў, што аўтар сам перажыў усё гэта пры Польшчы. Так дакладна напісана...»*.

Праўда, «Крык на хутары» ў Г. Марчука з'явіўся не на пустым месцы: на той час аўтар ужо меў неблагі досвед драматурга. Але, каб напісаць такі яркі твор (услед за першым раманам з'явіўся і наступны — «Прызнанне ў забойстве», атрымалася дылогія), несумненна, аднаго досведу мала. Неабходны і значны талент, дый уменне мысліць па-сапраўднаму раманна. А такімі задаткамі Г. Марчук якраз і валодаў.

Дзеянне раманаў адбываецца ў асноўным у мястэчку Нырча. Пад гэтай назвай паўстае родны пісьменніку Давыд-Гарадок. Назвы рэк Гарынь і Прыпяць, мясцовых урочышчаў, суседніх вёсак пакінуты без змен. Праўда, сюжэт тыпізаваны. Пішучы «свайго» Зміцера Летуна і яго сыноў, як і ствараючы характары іншых персанажаў, Г. Марчук меў канкрэтных прататыпаў. Аднак найчасцей стварае вобразы зборныя, а добрае веданне жыцця падмацоўвалася багатай аўтарскай фантазіяй, здатнасцю мадуляваць сітуацыі, якія неабавязкова былі, але якія маглі мець месца ў складанай заходнебеларускай рэчаіснасці.

Аўтабіяграфічныя моманты асабліва моцныя ў рамане «Кветкі правінцыі», галоўны герой якога — местачковы хлапчук Адась Доля. Рана застаўшыся без маці, ён пакутліва шукае дарогу ў самастойнае жыццё: здае своеасаблівыя іспыты не проста на існаванне, а на выжыванне. Адась — сама непасрэднасць, таму і даводзіцца яму гэтак нялёгка, што з-за сваёй залішняй шчырасці не заўсёды можа распазнаць, хто ёсць хто. Твор — свайго роду споведзь галоўнага героя. Таго, колішняга, які меў за плячыма ўсяго сямнаццаць гадоў і пачаў запісваць свае ўражанні, і цяперашняга — пасталелага, узмужнелага, якому ўжо трыццаць.

Раман моцны псіхалагізмам спасціжэння душы падлетка з глыбінкі. Адасю наканаваны доўгі шлях, я б сказаў, прырастання да малой радзімы. І калі напачатку ён не надта задумваецца, любіць яе ці не, дык, пасталеўшы, не сумняваецца: тут яго карані, тут яго апірышча. Адась Доля раскрыты не проста як наш сучаснік, а як сын пэўнага рэгіёна Бацькаўшчыны. Інакш кажучы — як паляшук.

«Паляшук» — так называецца і аповесць Г. Марчука, напісаная ўслед за раманам «Кветкі правінцыі». Калі Адась Доля толькі ўступае ў жыццё, шукаючы ў ім сваё месца, дык у Карнея Семенчука за плячыма Вялікая Айчынная вайна. Цяпер жыве адзін. Памерла жонка, трагічна загінуў сын. Семянчук — па-сапраўднаму народны характар, а яшчэ — гэта тып беларуса-працаўніка. Пісьменнік удала прадумаў кампазіцыю: аповесць складаецца з сямі раздзелаў-апавяданняў, кожны з якіх прысвечаны аднаму дню тыдня: «Цяжкі панядзелак», «Сярдзіты аўторак», «Працавітая серада», «Чысты чацвер», «Посная пятніца», «Шчаслівая субота» і «Нядзеля». Але гэта не толькі тыдзень з жыцця галоўнага героя, а і ўсё яго жыццё, бо ў творы знаходзіцца належнае месца рэтраспекцыям.

Усе творы Г. Марчука ўспрымаюцца нязменнай аўтарскай споведдзю. Незалежна ад таго, вядзецца апавяданне ад першай асобы ці ад трэцяй, падзяляе пісьменнік пазіцыю героя ці не. Ёсць жа яшчэ ўнутраная пазіцыя апавядальніка, што выяўляецца ва ўсёй канцэпцыі пэўнага твора. Лепш за ўсё гэта, на маю думку, адчуваецца ў рамане «Сава Дым і яго палюбоўніцы», які чымсьці набліжаецца да любоўна-авантурнай разнавіднасці гэтага жанру. Галоўны герой твора ў сваёй захопленасці жанчынамі блізкі да сусветна вядомага прыхільніка прыгожага полу Казановы. Як і яму, Саву лёгка ўдаецца знайсці паразуменне з чарговай каханкай, і ён асабліва не пераборлівы. Аднак Г. Марчука цікавяць не столькі авантуры на любоўным фронце, колькі праблемы маральна-этычнага плана.



*Георгій Марчук.*

Разумеючы, што беларускай прозе часам бракуе дынамізму дзеяння, сюжэтнай займальнасці, Г. Марчук у сваёй творчасці паспяхова гэта кампенсуе. Не ў апошнюю чаргу ў рамане «Сава Дым і яго палюбоўніцы». Ды ў рамане «Вочы і сон» вастрыня сюжэта асабліва адчувальная.

На сур'ёзны роздум натхняе раман «Без анёлаў», які арганічна ўпісваецца ў літаратуру, што асэнсоўвае шляхі, пройдзеныя народам за гады савецкай улады. Г. Марчук далёкі ад таго, каб кідацца ў крайнасці, дый, як відаць са зместу, паставіў перад сабой больш лакальную задачу. Яго цікавіць, як сам час праламляўся ў лёсах людзей, як яны, жадалі таго ці не, не маглі застацца па-за падзеямі, якія перажывала краіна. Перакананы Г. Марчук і ў іншым: нават тады, калі падыходзіць да ацэнкі жыцця канкрэтных людзей (у дадзеным выпадку герояў твора), дык могуць узнікнуць не тое што палярныя, а і супрацьлеглыя меркаванні. Таму ў звароце «Ад аўтара» ён сведчыць: *«Просты чалавек сказаў бы пра герояў гэтага рамана: яны былі на зямлі, зведалі гора і нястачу, радасць і сум — шчаслівыя людзі; філосаф дадаў бы: яны зведалі ўсё і не спазналі нічога ў гэтым бязмежным свеце — няшчасныя людзі»*.

Дык з каторым з меркаванняў пагадзіцца? На чый бок стаць? Г. Марчук, як гэта і характэрна для яго, не спяшаецца рабіць нейкія адназначныя высновы. Больш за тое, гэтым разам ён становіцца… староннім назіральнікам і дае магчымасць кожнаму з галоўных герояў (а іх двое) выказацца. Тым самым у рамане атрымаліся дзве часткі. Адпаведна спавядаюцца Яна і Ён, жонка і муж.

Бадай, з-за гэтага даверу яна лёгка пайшла насустрач Сяргею. Не спалохалася, калі даведалася, што ён быў жанаты, мае дачку. Не спынілі яе і ягоныя заляцанні да іншых жанчын, пра што не магла не здагадвацца, бо з адной з іх, Клавай Шорах, сябравала. Не магло не сказацца і тое, што ў вачах маладасведчанай Ліды Сяргей паўставаў чалавекам смелым, рашучым (што, між іншым, ён заўсёды любіў паказаць і дапамагчы). Толькі паступова яна пераканалася, што яе жыццёвы ідэал зусім не адпавядае таму, з кім звязала свой лёс.

На сёння Г. Марчук — адзін з нямногіх прадстаўнікоў свайго пакалення, хто паспяхова абжыў жанр рамана. Пацвярджэнне таму і яшчэ адзін ягоны твор «Год дэманаў». Матэрыял, пакладзены ў аснову, самы найноўшы. Як заўсёды, востра, надаючы ўвагу сюжэту, пісьменнік закранае надзённыя палітычныя і маральныя праблемы канца 1980-х гадоў. І не блукае, як сёй-той, у нябесных высях, а апускаецца на грэшную зямлю, дзе жывуць і галоўныя героі — Любамір Горыч і тая, якую ён кахае, моцна, самаахвярна, не зважаючы на тое, што яна замужам.

1996 год пазначыўся для Г. Марчука атрыманнем Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, але наступны прынёс яшчэ адзін поспех агульнадзяржаўнага значэння. Кніга прозы «Хаос» была прызнана лепшай кнігай года і адзначана Спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Творы, што ўвайшлі ў гэтую кнігу, належаць да «малой прозы». Дарэчы, пасля таго, як у яго з'явілася некалькі твораў буйнога празаічнага жанру, Георгій Васільевіч напісаў і апавяданні, якія ў «Хаос» не трапілі, што лішні раз сведчыць на карысць таго, што Г. Марчуку цесна ў раманнай прасторы. Як і некаторым іншым беларускім пісьменнікам, у тым ліку і ягоным аднагодкам. Але ён адрозніваецца ад іх, на што, у прыватнасці, звярнуў увагу і Іван Штэйнер: *«Звычайна будучы раманіст пачынае з невялікіх замалёвак, нарысаў, апавяданняў, а затым спакваля пераходзіць да сярэдніх формаў і толькі пасля, набраўшыся адпаведнага вопыту, прыступае да шырокафарматнага ўзнаўлення падзей. Г. Марчук парушыў звыклы працэс традыцыйнага спакойнага фармавання сябе як эпіка: пачаўшы наогул з прызнання ў любові зусім да іншага роду літаратуры, ён піша свае першыя раманы і толькі пасля звяртаецца да так званай "малой" формы»*.

Ды, як той казаў, ад змены месца складнікаў сума не мяняецца. У дадзеным выпадку выключэнне з няпісанага літаратурнага правіла. Г. Марчуку пайшло толькі на карысць. Досвед, набыты пры напісанні раманаў, стаў для яго, па сутнасці, тым творчым палеткам, на якім можна адначасова «вырошчваць» некалькі культур, а потым атрымліваць шчодры ўраджай, калі да справы ставіцца клапатліва і з высокай адказнасцю.

У гэтым пераконвае і цыкл «Давыд-гарадоцкія каноны». У самой назве пісьменнік выкарыстаў даўні харавы жанр (паняцце, як вядома, паходзіць ад грэчаскага слова *капōп*, што ў перакладзе азначае «норма», «правіла») і мае некалькі значэнняў, у тым ліку і такое: адна з форм праваслаўных царкоўных спеваў, якія ўяўляюць сабой своеасаблівы дыялог паміж чытальнікам і хорам або паміж хорамі. Г. Марчук надаў яму сваё гучанне, павёўшы гаворку пра вечныя паняцці, што з'яўляюцца маральнымі і духоўнымі каштоўнасцямі, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Гэта свайго роду навелы-споведзі, у якіх аўтар прызнаецца ў сваёй любві да Маці, да тых рэалій, што акружалі яго з маленства, а з гадамі не толькі не забываюцца, а і набываюць яшчэ больш важкі, больш значны сэнс. Цыкл складаецца з дзесяці твораў. Пачынаецца «Канонам Богу», а завяршаецца «Канонам Маці». Як дакладна заўважыла А. Белая, адна з даследчыц творчасці Г. Марчука, *«гэты канон адрозніваецца ад папярэдніх тым, што ён — дыялог, уяўлены аўтарам, хутчэй маналог, адрасаваны ў вечнасць»*.

Плённа абжывае Г. Марчук і жанр казкі. Гэтыя творы прадстаўлены ў яго кнігах «Жылі-былі дзед Васільчык і баба Кацярына», «Дзікая груша», «Казкі», «Чужое багацце» ды іншых. Падступы да жанру казкі ім былі зроблены яшчэ тады, калі паспрабаваў свае сілы ў драматургіі. Ягоны дэбют у гэтым жанры — спектакль па п'есе-казцы «Чаканне сабакі Тэафіла» — меў неймаверны поспех. За нейкі год пастаноўка вытрымала 250 паказаў. Адметнасцю аўтарскага почырку, уменнем вырашаць старыя праблемы па-новаму, здатнасць размаўляць з дзецьмі без маралізатарства і разам з тым даваць ім сапраўдныя ўрокі маральнасці засведчылі і п'есы-казкі «Загадка каралеўства Аварыі», «Тушканчык і чароўны чамаданчык» і іншыя. Але ў дадзеным выпадку маюцца на ўвазе казкі не як драматургічны, а як традыцыйны літаратурны жанр.

Сёння Г. Марчук — адзін з самых вядомых беларускіх пісьменнікаў. Калі сабраць разам усе творы, што з'явіліся з-пад ягонага пяра, атрымаецца дзесяць аб'ёмных тамоў дыхтоўнай, надзвычай высокамастацкай літаратуры: 8 раманаў, 50 п'ес, столькі ж казак, 100 навел, 5 кінасцэнарыяў, ажно 400 афарызмаў!

Між іншым менавіта Г. Марчук даў сапраўднае жыццё ў беларускай літаратуры афарызмам як жанру. Асобныя творы пісьменніка, асабліва ягоныя афарызмы, перакладзены на рускую, англійскую, украінскую, літоўскую, балгарскую, казахскую, польскую і македонскую мовы. Нядаўна Георгій Васільевіч пачаў паспяхова пісаць вершы. На асобныя з іх ужо звярнулі ўвагу кампазітары, паклалі іх на музыку.

Яскравае сведчанне таму, што творчасць Г. Марчука — з'ява ў літаратуры, і тое, што яму прысвечаны ўжо дзве манаграфіі — «Мастацкі свет твораў Георгія Марчука. Драматургія, проза, казкі» Людмілы Іконнікавай і «Сусвет, убачаны здалёк. Творчасць Георгія Марчука» Івана Штэйнера.

Глыбокі сэнс мае адзін з лепшых афарызмаў Георгія Васільевіча: *«Шчасце не ў тым, чаго ў нас, можа, і няма, а ў тым, што мы ёсць на Зямлі»*.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## Хвароба

У Бараўлянскай бальніцы ў палатах да аперацыі і пасля ціха. Так хворыя праз цішыню аддаляюць ліха, якое даслаў на іх лёс. На тварах неспакой прарос. Адзін хударлявы, рухавы, сівы кажа адно:

— За што? Пяцьдзясят гадоў я на маторным заводзе. З жонкаю, з дзецьмі ў любові і згодзе. Не піў, не гуляў, у міліцыю не трапляў. Да чужых жонак не хадзіў, усё жыццё сваю любіў, пяцьдзясят гадоў на заводзе я чэсна служыў. Маю дыпломы, медаль, ганаровыя званні. За што мне Бог даслаў пакаранне?

— Бог бачыць усё, — казалі яму, — быў, значыць, грэх, Цярэх. Прызнавайся нам тут, у палаце, і часцей чытай малітву Божай Маці.

— Не было граху, кажу як на духу. Пяцьдзясят гадоў на заводзе. За што?

— Дай спаць. Хопіць ужо, годзе, — казаў сусед.

— Прызнавайся, а лепей пакайся яшчэ да наркозу, — другі так казаў, ён быў пасля аперацыі, меў больш аптымізму, узмацніў трохі сваю ён харызму.

Прывезлі з аперацыі Цярэха жывога, пачаў з той хвіліны ён надта дзякаваць Богу.

— Прызнаюся, хлопцы, думаў, Бог мне не даруе. Быў даўно адзін грэх, калі пабрылі мяне пад арэх, паслалі ў Венгрыю, там я служыў, добрым сувязістам быў. Гуляў з венгеркай. Быў закаханы. Абяцаў ажаніцца. Населі на мяне аж два капітаны: не дазволена салдату з чужой ажаніцца, лепш удавіцца. Прыйшлося на ўсё згадзіцца. Не бегаў больш у самаволку, а што толку. Як кажуць па-іхняму, нем тудом, што ў перакладзе — «я не разумею». Пасля дэмбеля хутка на аэрадром.

Сусед уздыхнуў:

— Добра, што збег. Бывают в жизни такие моменты… хорошо, хоть не надо платить алименты.

Другі пасароміў:

— Што ў каго баліць, той пра тое і бубніць.

Цярэх маўчаў і дзякаваў Богу, што той за яго гэткі грэх не закрыў яму жыцця дарогу.

## Царкоўная Гара

А трыццатых гадох быў нашай царквы паджог. Казалі адно: бусел прынёс галавешку з агнём у свае кубло, якраз паміж купалоў яно было. У тым месяцы маі суша была незямная. Не ўратавалі. Хоць побач была рака. Разам з царквою згарэла мо палова гарадка. Згарэла царква. Засталася толькі званіца. Разабралі атэісты на танцпляцоўку шпарка і лоўка. Цяпер тая званіца толькі сніцца. Не прыжылася пляцоўка, не цягнула моладзь туды на танцы. Тады пасадзілі бярозы ды клёны. Пасохлі яны. Не дажылі да вясны яны. Падлеткі на гары гралі ў футбол. Але ж млява, без азарту. Старэйшыя забаўляліся ў карты. От дзіва. Ніхто не радаваўся на гэтай Царкоўнай Гары, што ні гавары. Гара нікога не прымала, гара царкву сваю чакала. Ёй царквы не хапала. Кажу айцу Грыгорыю: «Як нам царкву на гары адрадзіць?» Адказвае: «Позна. Ужо і ў Казанскую няма каму хадзіць. Ой, як патрэбна мястэчку дзетак больш нарадзіць». А трыццатых гадох быў нашай царквы паджог. Кажуць, час усё з галавы можа выкінуць. Ды чамусьці слёзы на твары не могуць высахнуць.

## У піўным бары

Нахабны і жвавы Фядос да генерала не дарос. Не дацягнуў ён і да палкоўніка. Служыў прапаршчыкам на кухні і спрытна валодаў палоўнікам. Адслужыў. Быў гаваркі — урадзіўся такі. Апранаў для форсу модную фуфайку ды ішоў у піўную, слухаў там сяброў і знаёмых і сам прыдумляў розныя байкі. Казаў, што служыў на флоце, дэсантнікам быў, а перад дэмбелем у сакрэтнай часці служыў. Тым, хто слухаў, казалі: «Трэба браць на веру, бо як ты праверыш». Фядос быў неблагі артыст, круціў свой вус, часаў вуха і нават зрэдку частаваў півам таго, хто яго больш слухаў. Усе пыталі яго пра сакрэтную службу: а ці не вёў ён з касманаўтамі дружбу? Усе лічылі, што нават у Крамлі і Белым Доме ён быў… Так Фядос галовы ўсім задурыў. Адзін вайсковы ветэран байкам Фядоса не верыў. Асабліва таму, што казаў Фядос пра вайну.

— Я ветэран трох войнаў, — казаў без жарту Фядос, — таму і рана злысеў, не маю на галаве валос. Сэрца баліць, цяжка мне жыць. Трэба наліць.

— Гэта ж на якіх такіх войнах, браце ты мой, быў? Можа, са мною дзе-небудзь служыў? — з падкавыкай пытаў у яго ветэран ды падліваў гарэлкі ў стакан. Прыпёр, як кажуць, яго да сцяны ветэран афганскай вайны.

Выпіў Фядос, закусіў камбалой. Так адказаў: «Вясною на першай вайне я з жонкаю, на другой з дачкою, а на трэцяй з унучкай сваёю. Хіба ж не так? Што скажаш? Хіба не на фронце Фядос? Я не чую?»

— На фронце! Так бывае, што ў сям'і ідзе бойка ды сварка. Таўкуць адзін аднаго ў плечы, ад галечы, — адказаў ветэран, — я не глухі, я чую, — і наліў яму чарку другую.

Фядос пад хмяльком вырашыў больш у піўной не заставацца, паплёўся дахаты «ў палон здавацца».

## Славянскі базар

Зрабіў усё, што змог — на «Славянскім базары» беларус перамог. Фядос сачыў, перажываў, да апошняга тэлевізар не выключаў, песні любіў і сваё шанаваў. Пачаў сябрам званіць ён раніцою, каб падзяліцца прыемнай навіною.

— Іване, ты што не рады?

— Чаму, Фядос?

— Ад нас такога не чакалі. Беларус наш перамог у Віцебску на фестывалі.

— Мне б твой клопат. Я, брат, прыгонным стаў, на сорак аж гадоў. Прыватызацыя ўзяла ў палон, гані штомесяц мільён. Ярмо і мне, і ўнукам. Я пяцьдзясят гадкоў, брат, гараваў як мог, а тут табе і гора на парог.

Фядос панік, не стаў пярэчыць ён Івану і пазваніў Сцяпану.

— Ты чуў пра радасць нашу? Галоўны прыз у Віцебску ў нас. Хвала і слава!

— Мне толькі гэтага і не хапала, — пачаў адказ. — Я ў турбоце, браце мой, якраз. За пенсію плачу кватэру, хапае шчэ на лекі, ежу і застаецца нуль на танную адзежу. Да доктара ідзі — плаці. Ды ўнуку за навуку. Пляменнік цяжка захварэў, павезлі ў Іспанію, там будуць ратаваць… Дзе грошы нам на ўсё ўзяць? Якая, мой суседзе, радасць, калі турбот тут поўны рот.

Больш не званіў Фядос. Кватэру ён даўно прыватызаваў, калі быў першы ўзнос. Прасторную ён меў кватэру, меў немалую пенсію ён ад чыноўніка кар'еры. Здароўе пільнаваў, крэдыты ў банку ён не браў. Жыў у дастатку і лёс сяброў юнацтва яго не турбаваў. Таму за гэтую прыватызацыю ён моўчкі ў парламенце і галасаваў. Сяброў турботы, гора, неспакой Фядосу гонар прытушылі. Ён зразумеў, як кажуць, што і для чаго. Што радасць нават і мільёнаў не зменшыць гора чалавека аднаго.

## У глыбіні Палесся

Сцяпан з Сібіры на Палессе ўнука прывёз, лічыў, што радзіма Сцяпана кране душу ўнука да слёз. Да станіцы ляцелі, на цягнік перасeлі, калдыбалі аўтобусам пэўны час, ды пехатою гадзіну. Унук праклінаў тую гадзіну, калі ён згадзіўся. На радзіму ж Сцяпана цягнула. Можа, трыццаць гадоў і мінула, як ён малады і здаровы падаўся ў Сібір.

— Глядзі, унучак, на гэты стажок. Тут колісь у футбол мы гулялі. А гэта наш сад. Шчэ трохі цвіце. Мая тут бабуля жыла. За садам, як помню, рачулка была. Штосьці нікога тут не відаць.

Унук слова ўставіў:

— Можа, з'ехалі ў горад, там шчасця шукаць.

— Дыхай, унучак. Паветра як мёд. Тутака колісь быў агарод. Морква, капуста, кроп і цыбуля. Ты ведаеш грушу такую, з назваю смешнаю — «дуля»?

Унук нехаця слухаў, ды ўсё пазяхаў. Морду крывіў, ды ўслых уздыхаў. Дзед абяцаў раніцою навучыць валодаць яго касою. Унук абыякавы і да старога млына прадзеда Якава. Нячыстая сіла яго круціла. У вёсцы палескай, можа, адзінай на ўвесь сельсавет не працаваў інтэрнэт. Без яго жыць унуку амаль немагчыма, вось у гэтым была прычына. Сябр унука абяцаў сюрпрыз: сэлфі даслаў, дзе галавою ўніз у дзявочым берэце ён вісіць у туалеце. Якое ў вёсцы сэлфі ўнуку? Прывёз яго дзед на галерную муку. Кажа ён дзеду:

— Паедзем у горад, там лепш начаваць. Тут нестае гігіены, цвіллю пахнуць усе тут сцены. У хаце старой бы ў турме.

Не ведаў дзед, што ў таго ў галаве. Кіламетраў мо пяць, як здавён павёў пехатою дзед унука ў «інтэрнэтны» раён.

## Бабруйск

Абрам — таленавіты сын свайго народа. Апладысменты гледачоў — адна яму ўзнагарода, бо ён адзін такі на ўсю акругу цудоўны «майстар эпізода». Не мае званняў і дыпломаў, ды не ўседзіць дома, нават хворы спяшаецца, як кажуць, да сваёй канторы. Іграў ён англічан, літоўцаў, шведаў, рускіх… Ну, і, вядома, тыпаў беларускіх. Ад ролі немцаў адмаўляўся, не толькі з-за свайго малога росту, таму што дараваць не мог і халакосту. Ды нечакана вельмі скора насунулася гора: інсульт пазбавіў руху і пакалечыў руку. Тры дні мо без прытомнасці ляжаў і раптам устаў. Загаварыў ён словамі чужымі, выразна так, таленавіта. Адкрыў яму Усявышні тое, што было закрыта. На ідыш вершы ён чытаў і нават песню праспяваў на дзіва дактарам. Сябры яго па сцэне мне так сказалі, калі Абрама пахавалі. Свайго для сэрца і душы яму і не хапала. Мала пражыў Абрам, так мала.

## Карпілаўка

У госці запрасіў паэт мяне і жонку ў вёсачку пад Мінскам. Быў май, і песня салаўя была, і стол гасцінны, і карціны. Бог даў таленавітаму паэту і талент мастака яшчэ, і гарманіста. Мы ўсе, пазбаўленыя таленту артыстаў, спявалі разам старыя песні, жартавалі, і самаробнага віна мы смак пазналі — была ахвота. Піць жа лёгка, няцяжкая работа. Пасля экскурсіі па хаце кажу яму: «У такім раю жывеш ты, браце». А побач з хатаю ягонай дуб стагадовы, шчэ помніць дрэва Купалы словы. «Сам ты, — кажу, — паэт, мастак, музыка. Не толькі вёска, сталіца табою ганарыцца». Панурыў галаву паэт і адказаў:

— Я ж так хацеў, каб тата, маці ды былі жывыя, сядзелі бы ў радасці на ганку, чытаў бы вершы ім да ранку. Іх прага жыць, дабро тварыць мяне заўсёды акрыляла. Іх доля селяніна мяне натхняла. На жаль, цяпер без іх у хаце я начую, і невылечна, брат, сумую я, сумую, бо так даўно я голас іх не чую. Рай, браце мой, тады, калі ўсе твае жывыя.

## Дом творчасці

Фядосу пашанцавала: дармавая пуцёўка ў прафкаме яго чакала ў дом адпачынку. Дом быў няпросты, пісьменнікі ў ім адпачывалі. Сярод соснаў, бярозак натхненне шукалі. «Можа, сярод бяроз знойдзеш і ты натхненне, Фядос, а раптам на вершы пацягне, а што — усё можа быць, калі перастанеш ты моцна піць».

— Ды я ж з іх нікога не знаю, — з трывогай Фядос уздыхае.

— Народны там будзе нават паэт.

Тут ачумеў Фядос аж да слёз. Купіў народнага паэта кніжку і два-тры вершы прачытаў. Адвык ад мовы. Было цяжкавата чытаць паэмы Дзяржаўнай прэміі лаўрэата. Узяў з сабой дачку ды пляшку каньячку. Да аднаго ішлі стала ў доме на абед: Фядос, дачка і наш паэт.

— Вучыся, дачушка, як трэба жыць.

Кожны да яго бяжыць, да неба нос ён задзірае, падобнай славы ніхто не мае. Як у сталоўку ён заходзіць, з яго вачэй ніхто не зводзіць. Бярэ нас зайздрасць, а чаму? Бо грошы й слава — усё яму. Няхай і нам падпіша кніжку на добры ўспамін. Люду простага тут многа, а народны ён адзін.

Час бяжыць. Сівеюць скроні, і гэты час ты не дагоніш. А трэба жыць. Фядос падаўся ў таргоўлю, пакінуў ён сваю будоўлю. Ён гандляр, бярэ на продаж толькі той тавар, які дае навар — жывы даляр. Ён дробны купчык, не купец. Час ад бегатні і адпачыць. Бярэ ён унучку і вязе туды, у дом славуты над ракою, дзе быў з дачкою. Былых слядоў няма. Інвестар новы, махляр стапудовы і публіка чужая.

— Бяры ты прыклад з алігарха, — Фядос унучцы ўнушае, — цяпер, што не кажы, даляр усё рашае. Ты што чытаеш?

— Кніжку, — унучка адказала.

— Якую? Бібліятэка ж тут ліквідавана.

— Знайшла ў кучы каля бані...

— Дай сюды.

— Вось, з аўтографам паэта кніжка гэта.

Фядос кніжэнцыю пазнаў. Даўнымдаўно, калі будынак пакідаў, ён вершы народнага паэта з пакоя свайго і не забраў.

— І што, — пытае ён — цікава?

— Цікава, — унучка адказала.

— Кінь дурное. З кнігі гэтай не будзеш сыты, як баба ў казцы ля разбітага карыта.

— Тут ёсць аўтограф. Вось: «Цудоўнаму чалавеку, з якім сядзелі за адным сталом і цешылі сябе вiном».

— Кажу табе сур'ёзна — кінь дурное. Урэмя прыйшло другое. Адна забава. Бяры ты прыклад з бізнесмена. Жыць будзеш ты як пава, — і кінуў кніжку ён у сметнік.

Пад вечар унучка неўпрыкмет забрала кніжку і ад дзеда схавала, бо спадабаўся ёй гэты паэт. Што тут дадаць? На веры, духоўнасці, дабрыні ды на любові трымаецца свет, пра што і пісаў у сваіх кніжках паэт.

Георгій МАРЧУК

# Час і месца

Зрыфмаваная проза



Фота Кастуся Дробава.



Яўген ХВАЛЕЙ

## Зімовая Уша

*Беразіно — Барысаў...*
*Імклівая шаша*
*Па мосце прабягае*
*Там, дзе рака Уша.*

*І вёска так завецца —*
*Дзе твой маленства след*
*Блішчыць, як маладзік той,*
*Умураваны ў снег.*

*І я ступіў сягоння*
*На лютаўскі цалік.*
*Як хораша тут сэрцу!*
*Нібыта напаткаў я*
*Пад снегам баравік.*

*Жывіце вечна, вёска*
*І рэчачка Уша.*
*І з Нёмна перасяліцца*
*Сюды мая душа.*

## Ушанскія буслы

*Сірацее гняздо буслінае,*
*Я гляджу на яго штодзень:*
*Хоць бы шолах у вершаліне,*
*Хоць бы крылаў бялюткіх цень...*

*Адляцелі вы так далёка*
*Ад рачулкі Ушы, буслы,*
*Недзе Афрыцы дорыце клёкат,*
*Толькі мой не чуе слых.*

*Я таксама паеду ў скрусе*
*З гэтых месцаў,*
*Так блізкіх мне.*
*Адлятаў я не раз з Беларусі,*
*Як і вы, —*
*Там сваціў белы снег*

*У маім сэрцы,*
*Як срэбная знічка,*
*Што ляцела проста ў душу.*
*Не сумуйце, буслы, настальгічна,*
*Прылятайце вясной на Ушу.*

***

*Мы з табой — два адвячоркі,*
*Дзесь далёка раніца...*
*Паміж Заўтра і Учора*
*Ты — як ратавальніца...*

## Восаўскія журавіны

**А.**

*За вёскай Восава — балота,*
*На ім — бы зоркі, журавіны:*
*Рассыпаны, як на аблоках,*
*На купінах між хвой, ялінаў.*

*А мох зялёны — як пярына,*
*І выступы — нібы падушкі.*
*Вядзе ласіная сцяжына*
*Да цуду-ягад жураўліных —*
*Хапай іх жменямі, не думай...*

*І толькі потым, як вядзерцы*
*Напоўняцца балот рубінамі,*
*Заб'юцца ў такт два блізкіх сэрцы,*
*Кроў запалае журавінамі...*

*Хай журавінамі асенняя*
*Гарыць зямля мая заўсёды...*
*Я чую — шэпча мне Ясенін:*
*Ёсць смутак-жаль —*
*Ён тут вясёлы...*

***

**А—і**

*Я палю печку,*
*Ты печку паліш*
*У розных вёсках*
*І хатах розных...*
*А час наш хуткі,*
*Такі хуткаплынны —*
*Завыюць вятры,*
*Затраскочуць марозы.*
*А толькі ж лета*
*Рукі нам грэла,*
*І лашчыла рэчка*
*Грэшнае цела...*

*Вось і печка ўжо дагарэла —*
*Бліснуць вуглі*
*Тваім позіркам смелым...*

*І запалала нешта ў душы,*
*І падалося мне,*
*Быццам*
*Мы каля печкі адной у глушы —*
*Сталі сэрцы полымна біцца...*



Анатоль ЗЭКАЎ

## Навагоднія эпіграмы

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

*Дзяўчаты, Лёню палюбіўшы,*
*Глядзяць на Лёню з прыдыханнем,*
*Бо ён, хоць «стомлены Парыжам»,*
*Зусім не стомлены каханнем.*

**Алег ЖДАН**

*Алег схаваўся, нібы ў пушчы*
*Ад паляўнічых дзік-кабан:*
*У пашпарт зазірнеш — ён Пушкін,*
*А кнігу ў рукі возьмеш — Ждан.*

**Наталія КАСЦЮЧЭНКА**

*З душы сваёй да донца выварочвае*
*Усё, што ў ёй гадамі назапашана.*
*Калі і зваць што прозаю жаночаю,*
*То, безумоўна, перш за ўсё Наташыну.*

**Рагнед МАЛАХОЎСКІ**

*Дагэтуль мы Рагнеду ведалі,*
*Пра тое нават і не марачы,*
*Што стануць зваць мужчын Рагнедамі,*
*Ну, хоць бы аднаго — на Нарачы.*

**Дзмітрый ПЯТРОВІЧ**

*Які б дзе верш Пятровіч ні знайшоў,*
*Ён праспяваць яго для ўсіх гатоў.*
*І ў тым няма нічога скрытнага —*
*Прыпеў падрыхтаваны ў Дзмітрыя.*

**Вячаслаў РАГОЙША**
**і Таццяна КАБРЖЫЦКАЯ**

*Гады няўрымсліва ляцяць-мінаюць —*
*І аніхто спыніцца іх не змусіць.*
*А Вячаслаў з Таццянаю яднаюць*
*Гадамі Украіну з Беларуссю.*

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

*Сказаць пра тое не баюся я,*
*Хутчэй, сказаць пра тое варта:*
*Яна ў «Советской Белоруссии»*
*Для нашых кніг — як навігатар.*

**Анатоль СТАТКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ**

*Ён на працягу многіх год*
*Вякоў разматвае сувой,*
*Выводзячы адтуль і свой,*
*І наш усіхны радавод.*

**Васіль ШЫРКО**

*Чурылаўцаў уславіў на паперы*
*І ў кнігах ён спаўна, і ў друку.*
*Ды толькі як напісанаму верыць,*
*Калі ўсё піша дзед Манюкін?*



Фота Кастуся Дробава.

*На той прыбераг Дзвіны,*
*Дзе жылі мае надзеі...*
*І няма ўжо больш віны.*
*Толькі ноч паціху тлее.*

*Жыве гармонія вяршынна,*
*Ды тчэцца сувязей радно...*
*І паглядае досыць чынна,*
*Ўвабраўшы Вечнасць, палатно.*

## Мастак

**Памяці Фёдара Ястраба**

*І жывапісца, і паэта —*
*Два светы у адзін зліліся.*
*Ён склаў аж тысячу санетаў,*
*Што у вянок яму ўпляліся.*

*Там «наразаюць колы часу»*
*Жыцця зямнога каляіны,*
*А на палотнах поўна красак,*
*Сярод якіх жывуць багіні.*

*Зіхціць там золатам і чаша,*
*Каб увабраць ёй яблык спелы...*
*Жыццё мінулае і наша*
*Мастак даносіць нам умела.*

***

*Сяўба стагоддзяў спее рунню —*
*Вяртае памяць пра былое.*
*І нам гавораць пра святое*
*Абуджанага часу руны.*

*Яны — у вітражах касцёлаў*
*І ў фрэсках праваслаўных храмаў,*
*Ва ўсіх людскіх пакутных драмах,*
*Што помняць гарады і сёлы.*

*Як ні далёка ад нябёсаў*
*Жыццё нат грэшнае зямное,*
*Спяліць патрэбна нам святое*
*Ў саміх сябе праз слёзы-росы...*



Галіна ЗАГУРСКАЯ

## Для шчасця...

*Адзінота, можа, і патрэбна...*
*Добра з ёй сустрэцца на бягу,*
*Каб нарэшце ўгледзецца у неба*
*І сказаць сабе: «А я змагу...»*

*Атрымаць ад неба блаславенне,*
*Зноў далей адправіцца у шлях*
*І, адкінуўшы усе сумненні,*
*Лёгка лёс свой несці на плячах:*

*Радавацца полю з добрым жытам,*
*Радасна грыбы ў бары збіраць,*
*З радасцю праводзіць дзень пражыты,*
*З радасцю дзень новы сустракаць.*

*Там мяне чакаюць стос паперы*
*І аловак мяккі на стале,*
*Фарбы, палатно, малітва, вера...*
*Мне для шчасця гэтага стае!*

## Вечар

*Дзень адыходзіць. Сонца нізка*
*І палымнее ў вокнах дома.*
*Кладзецца слоў гаючых нізка,*
*Каб думкай стаць ужо свядомай.*

*Прамень дрыготкі дагарае*
*І б'ецца ў роспачным маленні,*
*А хутка і зусім растае,*
*Паслаўшы хісткае імгненне.*

*Сутонне перальецца ў вечар,*
*Які рассыпле ў небе зоркі.*
*Пакуль жа свецяць вокны-свечкі —*
*І ўжо ад думак мне не горка...*

## Ноч

*Ноч пацерлася аб тын,*
*Да зямлі затым прынікла,*
*А над ёй нябесны сын —*
*Месячык гуляе звыкла.*

*То у хмаркі ён нырне,*
*Асвятліўшы іх па краі,*
*То ўніз промні сыпане*
*І на струнах тых зайграе.*

*Я захоплена гляджу*
*На блакіт, вакол разліты,*
*І нікога не суджу,*
*Бо душа слязамі ўмыта.*

*Хай не пырснулі з вачэй,*
*Ды нябачна шчыравалі...*
*Праляці жа, ноч, хутчэй,*
*Мяне хмары ўдаль пазвалі*

# ГОДныя кнігі. 2016

**А было б няблага весці поруч з кітайскім календаром яшчэ і Літаратурны. Прыкладам, мінулы год можна абвесціць Годам жаночай паэзіі.**

## ЛЮБОЎ, ЯШЧЭ РАЗ ЛЮБОЎ

Глядзіце самі: дэбютавалі Сабіна Брыло, Ганна Галавіна, Ірына Карэліна, Марыя Бельская, Ірына Радзіхоўская, Ганна Федарук. Выдалі зборнікі Юлія Цімафеева, Людка Сільнова, Таццяна Сівец... А на «пачэсным куце» паэтычнай паліцы — «Маё невымаўля» Насты Кудасавай.

Гэта трэці пасля «Лісця маіх рук» і «Рыбаў» яе зборнік. І лепшы — пакуль. Наста Кудасава верная сваёй моўнай стыхіі, у якой пераплеценыя хрысціянства і язычніцтва, жарсць і прага духоўнай аскезы, эксперымент і глыбіннае адчуванне мовы, якое праймае чытача да эстэтычных дрыжыкаў. Усё больш заўважнае наследаванне Рыгору Барадуліну — найперш у тым самым пошуку новага слова, адметнага, раней не бачанага, але гарманічнага ў прыродзе ўласна беларускасці. Часам словастварэнне робіцца надта заўважным, у тым сэнсе, што вы разумееце: вось гэта рабілася адмыслова дзеля пошуку. І, тым не менш, нават у такіх выпадках паэтка гучыць не менш ярка, самабытна, чым іншыя аўтары ў моманты «азарэння». Наўмыснымі асобныя радкі можна назваць, але штучнымі — не. Што да адвечнага спалучэння хрысціянства і язычніцтва, з часам яны ў паэзіі Кудасавай усё больш разыходзяцца, маюць сваё месца, груба кажучы. Хрысціянскі (без назаляючых рэлігійных аксесуараў) яе светапогляд: вялікая любоў да свету, кожнай яго драбніцы і асобна ўзятых людзей; разуменне сваёй нязначнасці і гатоўнасць быць пакорлівай (якую перабівае непазбежны бунт жаночасці). Язычніцтва сыходзіць у архетыповыя сімвалы, жывёльную і раслінную вобразнасць. Зрэшты, і любоў да жывога — ці не ад хрысціянства? Не любячы шчыра, наўрад ці магчыма гэтак адчуваць свет. Усведамленне імгненнасці жыцця спалучаецца ў Насты Кудасавай з адчуваннем усясветнай непарыўнасці. Гэта заўважна ў гучанні верша, адбіваецца ў вобразным шэрагу *(восень-сансара)*, а часам — у фармальнай пабудове, закальцаванасці тэксту:

*...і дарогаў незлічоны дар,*
*шляхаў лек,*
*дзе душы крокам гояцца,*
*лёг пад ногі мне,*
*іду —*
*паломніца —*
*вомшаю падэшвамі абшар...*
*не шкада ні ложка, ні стала:*
*толькі цела мне ў багаж прызначана,*
*але й гэты*
*травам кіну ў спадчыну,*
*каб заўжды свабоднаю была,*
*каб ішла бясстрашна што ні старт,*
*пешкі праз жыццё, абы не пешкаю,*
*несла ў вуснах пацалунак вершава*
*і дарогаў незлічоны дар...*

Больш засяроджаная на самім чалавеку, пачуццях Таццяна Сівец. Інтымныя перажыванні выказваюцца наўпрост — гэта адзін са складнікаў разняволенасці, якая дала найменне кнізе. Жанчына не саромеецца казаць пра свой боль, пра крыўду, пра паразу ў барацьбе за каханне, і гэта само па сабе даўно не нова. Істотна іншае: адметны паэтычны голас. Старую песню кожны новы спявак выконвае па-свойму. Адметнасць вершаў Таццяны Сівец, пэўна, у спалучэнні абсалютнае пачуццёвай аголенасці, самаіроніі, якой толькі йможна хоць неяк бараніцца, ды нязменнага адчування ўласнае годнасці. Чым горай абыходзяцца з гераіняй — тым вышэй трымае яна галаву. Перамагаюць пераможаныя, калі ў двух словах.

*...Гэта пасля. А тады… Мне не трэба было прасіць:*
*Гукі самі звіваліся, ткаліся — у паясы…*
*Я дакладна ведала, да каго будзе падобны мой сын,*
*Вышывала стужачкі — для дачкі…*
*І калі ты чытаеш зараз гэтыя пакручаныя радкі,*
*Ведай, што мне не ўсё роўна, дзе ты і з кім!..*

«Яна хоча быць свабоднай, парушаць межы, але раніцца аб іх абломкі», — піша пра гераіню «Разняволенасці» Людміла Рублеўская, і гэта трапная характарыстыка.



Не менш разняволеным і здольным да глыбокіх інтымных перажыванняў здольны мужчына-паэт. Пра гэта сведчыць кніга Юрыя Сапажкова «Дай полыму ля полымя састыць». З аднаго боку, кніга выклікае пачуцці радасныя: вось яшчэ адна выдатная кніга, вось паэзія без «але», з іншага — нельга пазбегчы смутку: Юрыя Сапажкова з намі больш няма. Ён быў вельмі ціхі, спакойны чалавек. А вось паэзія яго заяўляе пра сябе гучна — у найлепшым сэнсе. Гэта прыклад высокай рускамоўнай творчасці ў сучасным літпрацэсе Беларусі — нароўні з Дзмітрыем Строцавым, Георгіем Барташам.

*Нет больше прошлого и будущего нет,*
*Корней спасительных и зреющих плодов.*
*Есть цвета простыней поспешный первоцвет*
*В ночь опадающих, как лепестки, часов...*

Казачным да шчымлівасці паўстае «Горад Мілаград» Людкі Сільновай. Увогуле, дзіўна, што пра паэтку такую адметную кажуць так мала. Звяртаючыся да найноўшай яе кнігі, адзначым міфалагічны светапогляд аўтаркі. Штодзённасць праходзіць праз паэтычнае пераасэнсаванне і робіцца магічным адбіткам свету, у якім нават звычайны бардзюр выглядае святочна, таямніча. Такую кнігу мог бы напісаць чалавек, які перанёсся ў наш час з далёкай даўніны, дзе месца цудам было заўжды. Часам верш Сільновай нагадвае народную запеўку, часам — сівую баладу з прысмакам горкай марской солі, а часам гэта — балючае прызнанне. Толкін у свой час стварыў свет з уласнаю міфалогіяй і законамі быцця; Людка Сільнова робіць тое ж — толькі мовай паэзіі. Уласна, жыццё для яе і ёсць паэзія. Мастацтва тут не проста частка чалавечага існавання — яно тоеснае самому жыццю. Горад Мілаград пры гэтым — месца адначасова фантастычнае і рэальнае. Ён спалучае рысы легендарнага Камелота, сэрца абяцанай зямлі і сучаснага Мінска. Мяркую, з часам паэзія Людкі Сільновай знойдзе свайго адданага даследчыка, які раскрые шырокаму чытачу гэтыя скарбы, якіх, насамрэч, безліч.

Натуральна, унёсак у паэтычную кніжніцу зрабілі ў 2016 годзе не толькі жанчыны. Напрыканцы года была прэзентаваная чарговая кніга Віктара Жыбуля «Дзяцел і дупло». Гарэзлівая назва адначасова красамоўная датычна зместу зборніка, які выдаўцы назвалі самай вясёлай кнігай паэта-авангардыста і перформера. Большасць рысаў гэтай паэзіі пазнавальная (калі вы знаёмыя з папярэднімі кнігамі Жыбуля «Стапеліі», «Дыяфрагма» ці, прыкладам, дэбютнай «Калі ў хаце дыверсант», якая выйшла — цяжка паверыць — дваццаць гадоў таму). Новы зборнік гэтаксама поўніцца гумарам, літаральна іскрыць усімі яго адценнямі: іронія, гратэск да чыстага абсурду, чорны гумар. Пры гэтым, як слушна зазначае анатацыя, традыцыйныя для Жыбуля гульні са словамі ды сэнсамі змушаюць смяяцца адно па першым часе. Затым прыходзіць зусім нежартоўнае задуменне. «Дзяцел і дупло» аздоблены фотаздымкамі з тэатральна-мастацкіх акцый і перформансаў, у якіх паэт браў удзел.

У параўнанні з папярэдне разгледжанай кнігай зборнік Генадзя Пашкова «Парад планет» — сур'ёзны, узнёсла-паэтычны. Назва такая тлумачыцца значнасцю кнігі для самога аўтара: гэта зборнік выбранай лірыкі за 44 гады творчай працы, лічы, парад найлепшага, падсумаванне. Да ўсяго, у вершах Генадзя Пашкова таксама сустракаюцца вобразы «касмічныя». І далей: у разуменні свету ён выходзіць за межы адно нашай планеты. Для яго чалавек — нешта большае, чым біялагічная адзінка. У паэзіі Пашкова прысутнічае адчуванне паяднанасці ўсяго прысутнага ў матэрыяльным свеце.

*Я, што дрэва, стаю,*
*і спацелае чую карэнне,*
*і на вечнае поле*
*рукі цяжкія кладу,*
*тканкай кожнай лаўлю*
*павучынкі вільготнай асенняй*
*ціхі ранішні звон і сярэбраную халаду...*

Зразумела, прыхільнік такой эстэтыкі будзе часта звяртацца да пейзажаў, а глыбей — адлюстроўваць станы прыроды і чалавека ў ёй. Адсюль таксама — матыў любові. Аўтар быццам раствораны ва ўсім, з чым судакранаецца. Немагчыма не заўважыць, што ў гэтым кнігі Пашкова і Кудасавай падобныя — у светапоглядзе і перакананасці, што любоў — аснова свету.

## МАТРЫЯРХАТ І НОЧ

У прозе 2016 года найпрыкметнейшымі кнігамі сталіся «План Бабарозы» Паўла Касцюкевіча і «Ноч цмока» Валера Гапеева. Што да публіцыстыкі, тут варта адзначыць чацвёртую кнігу Зіновія Прыгодзіча з серыі «Постаці. Гэткай шукаю цэлы век чэсці...».

«План Бабарозы» названы хронікамі беларускай матрыярхіі. Таксама адзначалася, што гэтая кніга — спроба сямейнай сагі (спроба — бо не тыя аб'ёмы, дый мэта ставілася аўтарам не тая). Сапраўды, Павал Касцюкевіч апісвае гісторыю адной сям'і, пяці яе пакаленняў, якія жывуць у Мінску, але самі гэты горад за родны наўрад прызнаюць. Увесьчасна яны шукаюць апраўданне сваёй тут наяўнасці. Галоўны герой — псіхатэрапеўт і шавец без ботаў: найперш яму трэба разабрацца ў сваіх праблемах ды комплексах, узгадаваных на багатай ніве празмернага бабцінага клопату. Бабароза — вобраз, безумоўна, зборны, архетып главы вялікага клану, які кантралюе кожнага яе чальца і міжволі падпарадкоўвае. Крытыкі адзначаюць два ўзроўні рамана: на першым разгортваецца гісторыя сям'і з яе балячкамі і радасцямі; на другім сям'я робіцца вобразам радзімы, Беларусі. Такім чынам, «План Бабарозы» — яшчэ й аповед пра найсучасную Беларусь. У новай кнізе Павал Касцюкевіч відавочна сталее: ранейшая яго проза была «сцёбная», поўная кепікаў, сатыры. Цяпер гумар таксама гучыць, але іншы, лагаднейшы і сумнейшы. Ён ужо не самамэта, але неад'емная частка стылю аўтара.

Кажуць пра творчы рост і даўнія чытачы Валера Гапеева. Яго «Ноч цмока» ў параўнанні з «Праклёнам» больш кампактная, многія падзеі апісваюцца лаканічна і пры тым дастаткова глыбока, дакладна, і нават другарадныя героі не застаюцца нераскрытымі. «Ноч цмока» напачатку выглядае класічным дэтэктывам, дзе галоўны герой, ён жа апавядальнік, — раённы следчы. *«Трупаў у нас год ад году па-рознаму. Калі не лічыць "недапалкаў" — аматараў пакурыць п'янымі ў ложку, абгарэлыя косткі якіх пасля знаходзяць у тых жа ложках, — такіх да дзесяці на год бывае. А па крымінальнай частцы — тры-чатыры. П'яныя бойкі… І сын бацьку, і сужыцельна мужыка, і між сабой сябры-таварышы не падзеляць чаго, калі перап'юць...»* Такі спакойны, нават абыякавы тон расповеду кажа пра тое, што для героя такія жудасці — звычайная штодзённасць. І тым страшней гэта гучыць, тым больш уражаны чытач. Завязка — смерць маладой жанчыны, у чыстым полі, без сведкаў ды ўлік. Потым дэтэктыўная гісторыя перарастае ў містычную. Валер Гапееў спалучае бытапісальнасць беларускай глыбінкі з глыбіннымі ж і невытлумачальнымі страхамі-забабонамі чалавека, гаворыць пра патаемнае, якое часта аказваецца цёмным. Тым больш цікава, што чытачы адзначаюць неадназначнасць рамана. Палягае яна ў асобных ідэях, якія выказвае аўтар. Калі ўзнікае спрэчка — твор, безумоўна, варты ўвагі. Асабліва калі спрэчкі вядуцца вакол нацыянальнага пытання, сродкаў вырашэння асобных яго праблем.

І як бы ні сумняваліся ў наяўнасці беларускай нацыі асобныя медыя ды геніі ад гісторыі і антрапалогіі, у нас даволі яркіх, таленавітых дзечоў культуры, прычым культуры адметна беларускай. Тут доказаў не трэба, дастаткова згадаць кнігі эсэ пра літаратуру, тэатр, зборы публіцыстычных тэкстаў... Шмат дзеля гэтага робіць Зіновій Прыгодзіч. Яго кніга «Постаці. Гэткай шукаю цэлы век чэсці...» — чацвёртая ў серыі гутарак са знакамітымі людзьмі Беларусі, людзьмі мастацтва. Прыгодзіч сапраўды стварае гутарку, жывую бяседу, не абмяжоўваючыся стандартным наборам пытанняў пра «як вы дасягнулі поспеху». Тут ёсць месца і дыскусіі, і, быць можа, спрэчцы, і кожны герой раскрываецца перад чытачом так, быццам бы ты й сам прысутнічаў пры размове. Сярод асобаў новай кнігі Прыгодзіча — пісьменнікі Генадзь Бураўкін, Васіль Быкаў, Аляксей Дудараў, рэжысёр Мікалай Пінігін, мастак Леанід Шчамялёў, оперная спявачка Аксана Волкава... Ёсць усе падставы меркаваць, што будзе й пятая кніга гэтай серыі. Балазе, такія выданні нам неабходныя!

**Наста ГРЫШЧУК**

# Растрывожаныя рыфмы

## Паэтычная спадчына Пятра Бузука

**У беларускай літаратуры 1920—1930-х гадоў ёсць шмат постацяў, якія прыцягваюць увагу даследчыкаў вялікім унёскам у станаўленне і развіццё беларускай культуры. Сярод іх немалая колькасць прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, бо грамадска-палітычная сітуацыя ў Беларусі 1920-х гадоў давала магчымасці для рэалізацыі сваіх здольнасцей не толькі беларусам.**

Неабходнасць стварэння навучальных і акадэмічных устаноў вымагала тэрміновага вырашэння кадравага пытання, з гэтай мэтай у Беларусь запрашаліся ўжо вядомыя навукоўцы. Сярод іх быў і Пётр Апанасавіч Бузук. У беларускай навуцы ён вядомы найперш як мовазнаўца, але яго літаратурная і літаратуразнаўчая спадчына з'яўляюцца для нас не менш цікавымі. Свае навуковыя артыкулы ён падпісваў уласным імем (П. Бузук), а літаратурныя творы — псеўданімам П. Росіч. Друкаваў П. Бузук яшчэ пераклады і рэцэнзіі, выкарыстоўваючы такія крыптонімы, як П. Р.; П. Р-ч; Р-ч або П. Б., аднак у Біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі» гэты аўтар адсутнічае і яго арыгінальныя мастацкія творы можна знайсці, толькі асабіста праглядаючы перыёдыку, у асноўным часопісы «Маладняк» і «Полымя».

Пётр Бузук нарадзіўся ў Тыраспальскай вобласці, даволі поўную версію яго біяграфіі можна знайсці на сайце Тыраспаля «На Днестре». Сярод асноўных падзей адзначым вучобу і працу ў Новарасійскім універсітэце ў Адэсе, пачатак выкладчыцкай працы з восені 1925 года на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта, куды ён быў запрошаны рэктарам У. Пічэтам. У 1926 годзе ён перайшоў у Інбелкульт, дзе ў 1929 годзе ўзначаліў фальклорна-дыялекталагічную камісію, а з 1931 года быў дырэктарам Інстытута мовазнаўства АН БССР.

У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў фондзе Л. Бэндэ захоўваецца спіс навуковых супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства беларускай Акадэміі навук з кароткімі біяграфічнымі дадзенымі (машынапіс, фонд 66, воп. 1, спр. 1148). У ім пададзеныя



*Пётр Бузук, 1920-я гг.*

наступныя звесткі пра П. Бузука: «Па нацыянальнасці украінец, беспартыйны... Мае навуковых прац каля 100, кніжак 10».

Навуковая дзейнасць П. Бузука ў галіне мовазнаўства даволі вядомая і даследаваная, чаго нельга сказаць пра яго літаратурную працу. Беларускай мовай П. Бузук авалодаў вельмі добра, што дапамагала ў літаратурнай і літаратуразнаўчай дзейнасці, вынікам якой сталі апавяданні, вершы, пераклады, а таксама артыкулы, прысвечаныя мове літаратурных твораў, украінскай літаратуры і яе ўзаемасувязям з беларускай, рэцэнзіі.

Публікацыі на беларускай мове і пра беларускую мову пачынаюцца амаль адразу пасля пераезду ў Мінск. Вельмі шмат літаратурных твораў і артыкулаў Пятром Бузуком надрукавана ў 1927 годзе, большасць — у часопісе «Маладняк». Гэта мастацкія творы, артыкулы, рэцэнзіі — прычым не толькі на беларускія, але і на ўкраінскія выданні. Стасункі Пятра Бузука з «Маладняком» не абмяжоўваліся публікацыямі ў часопісе. У 1928 годзе ён стаў сябрам гэтай арганізацыі.

Амаль у кожным нумары «Маладняка» за 1927 год з'яўляюцца вершы Пятра Бузука пад псеўданімам П. Росіч. Верш «Здрада» — тэма развітання з вёскай і пераезду ў горад — нават на фоне маладнякоўскай паэзіі вылучаецца арыгінальнасцю. У вершы «Зіма ў Беларусі» параўноўваецца прырода поўдня, дзе нарадзіўся П. Бузук, з беларускай прыродай і заканчваецца прызнаннем у любові Беларусі.

Пісаў П. Бузук і празаічныя творы — апавяданні «Аліменты», «Радасць за ісціну». Апошняе тэматычна пераклікаецца з вершам «Новаму Богу», прысвечаным Янку Купалу: «Але якая б там ні была, усё-ткі вясна. Слух ужо болей ня муліў капустаны рып снегу — вуліца даўно ўжо паказала свой восьпенны твар. І навокал вада, вада і вада. Вада і ў вадасцёках, вада і з дахаў, вада і пад клявішамі драўлянага тратуару. Ступіш неасцярожна нагой — і табе ў твар цэлы фантан вады».

Яшчэ адна сфера літаратурнай дзейнасці Пятра Бузука — пераклады, сярод якіх з нямецкай мовы (напрыклад, Іаханэса Бехера) і з харвацкай (Бруна Штэйнера). Пётр Бузук валодаў шматлікімі мовамі, у ліку якіх у некаторых крыніцах называецца таксама італьянская.

У 1930 годзе Пётр Бузук быў арыштаваны першы раз, але яго даволі хутка вызвалілі. Пасля другога арышту ў 1934 годзе ён нейкі час працаваў у Валагодскім педінстытуце. Але ў 1937 годзе яго арыштавалі паўторна, а ў 1938-м расстралялі. Такім чынам, жыццё Пятра Бузука абарвалася на Валагодчыне. Навуковыя працы, напісаныя ў час высылкі, пакуль не адшукаліся. Спадзяёмся, што прапанаваныя вершы Пятра Бузука дапамогуць скласці больш поўнае ўяўленне пра гэтую неардынарную асобу.

**Аксана ДАНІЛЬЧЫК,**
**кандыдат філалагічных навук.**

**Фота прадастаўлена дырэктарам Тыраспальскага аб'яднанага музея Алай Мельнічук**

**Пётр Росіч (Пётр Бузук)**

### Здрада

*Я ўжо здрадзіў, табе, дарагая, —*
*Прамяняў на квадрат гарадоў*
*Стракату твайго жніўня і мая*
*І капрызны малюнак садоў.*

*Помню вечар. З галля вымыкаўся*
*На прасторы нябёс медны таз.*
*Хутка зменшыўся, — і захістаўся*
*Ў перламутравым моры баркас.*

*А цяпер, толькі захад адзвоніць,*
*Месяц гасіць электро-ліхтар.*
*Ўзмах крыла серабрыстага гоніць*
*Цьму пужлівую ў хмурны бульвар.*

*Ночкай зімняй — канец ёй ці будзе? —*
*Цьмой праглынуты, жду пявуноў.*
*А цяпер роўна ў сем мяне будзіць*
*Зык бадзёры фабрычных гудкоў.*

*У дзевяць хвалі мяне падхапляюць...*
*Гоман, грукат... Трамваі грызуць*
*Рэйкі скрогатам. Аўто рыскаюць.*
*Гандляры свае песні пяюць.*

*Не сумуй-жа: ўсё роўна пакрые*
*І цябе брук праз дзесяць гадоў;*
*Над вясковым тэатрам завые*
*Многаструнны оркестр правадоў.*

**Друкуецца паводле:**
**Маладняк, 1927, № 2.**

### Зіма ў Беларусі

*Радзіўся я пад хмурым сонцам.*
*Пачаўшы свой кругаварот,*
*Яно зямельку там бясконца*
*Пячэ амаль што цэлы год.*

*І нават ўжо, як з дрэў галлістых*
*Вятры астаткі шат знялі,*
*У мора шляхам серабрыстым*
*Ўяжджае сонца — бог зямлі.*

*А тут ўжо ў хмурым лістападзе*
*Пушыстым інеем цвітуць*
*Кусты і дрэвы ў нашым садзе,*
*Над галавой драты гудуць.*

*Ў вяршынках елак цэпкай ватай*
*Застраў зімы густы цяжар, —*
*А дворнікі ў руках з лапатай*
*Барыкадуюць тратуар.*

<...>

*Мне сніцца поўдзень ў ноч глухую,*
*Але-ж усё-ткі прызнаюсь,*
*Люблю радзіму я другую,*
*Люблю цябе я, Беларусь.*

**Друкуецца паводле:**
**Маладняк, 1927, № 3.**

### Навальніца

*Ў небе радзілася хмарка, сплялася з другою,*
*К сонцу паўзе па блакітным пляцу;*
*Лапы свае падымае; а там за ракою*
*Шэрую к лесу спусціла дажджу паласу.*

***

*Змрок насуваецца, блікі на ўсім пагашае.*
*Вецер, сарваўшыся, космы расчэсвае дрэў;*
*Дым з дымара сцеражэ і ў шматкі разрывае…*
*Бліскаўка! Вецер на момант ў кустох прысмірэў.*

***

*Ледзь-ледзь бярозы паркаль варухнецца дрыгучы*
*Раптам пярун грозны стрэльнуў з гармат агнявых,*
*Грукат той ў горы ударыўся рэхам магучым*
*І, на кагосьці сярдуючы, ў хмарах заціх.*

***

*Кропля упала, другая, й шугнулі струменні;*
*Дождж сваёй сеткай-абрусам ўсю вёску закрыў.*
*Неба сярдуе, імкнецца разбурыць скляпенні,*
*Пенаю-крэмам з гары вадаспад забурліў…*

***

*Як-жа ня сорам, бабуля, баяцца. Грамніцу*
*Кінь ты паліць: мілагучны мне буры напеў.*
*Лепш ад унука паслухай, адкуль навальніца,*
*Ён ужо ў школе ўсё тое даўно зразумеў.*

**Друкуецца паводле:**
**Полымя, 1927, № 4.**

### Новаму Богу

**(Прысвячаецца Янку Купалу)**

*Вуха маё ужо болей не муліць*
*Рыпам капуставым снег.*
*Восьпенны твар паказала мне вуліца,*
*Брукам смяецца вясне.*

*Раніца новаму моліцца богу,*
*Скрогат жалеза і грук...*
*Ламавікоў барадатыя ногі*
*Цокам грызуць ужо брук.*

*Тут у ваколіцы цягнецца вуліца*
*Пусткай цаглянай сцяны,*
*К небу вужакаю дым чорны туліцца,*
*Пэцкае просінь вясны.*

*Новаму горад моліцца Богу*
*Цягнецца к небу лесам антэн,*
*Грае на струнах гімн перамогі*
*Ловіць з паветра гукаў струмень.*

*Ўвечары вочы шкляныя крамаў*
*Глянуць хвастамі электра-комэт,*
*Моўчкі танцуюць света-рэклямы,*
*Цемру трывожаць узлётам ракет.*

*Ноччу бяззорнаю новаму богу*
*Моліцца моладзь у новых царквах.*
*«Зможам пражыць мы без бога старога,*
*Шчасце сусвету ў нашых руках».*

**Друкуецца паводле:**
**Маладняк, 1927, № 5.**

### У Крыму

**Сонэт**

*Ўсё тут як казка альбо дзіўны сон.*
*Зліплося вунь з далёкім небам мора,*
*А кіпарысамі прашыты горы…*
*Бяжыць уперад хутка шэраг дзён.*

***

*А за спіной вялізны Чатыр-даг*
*Цалуецца з праменем, падпірае*
*Блакіт нябёс, і часта разрывае*
*Хмар чэрава яго зялёны дах.*

***

*Імкнуцца сіл набрацца ў сонца, ў мора*
*Сюды з палёў далёкіх, з ціхіх рэк,*
*І тут яны канчаюць часам век.*

***

*Няўжо-ж магчымы тут і смерць, і гора!*
*А можа й не? Пад хваляў звон*
*Прыходзіць к людзям ціхі, вечны сон.*

***Алушта, 1927 г.***

**Друкуецца паводле:**
**Маладняк, 1927, № 9.**

# Графічныя даляглядЫ



Марыя Дарожка.

У беларускім мастацтве графікі жанр пейзажу, ці краявіду, заўсёды займаў значнае месца. Асабліва гісторыка-рамантычны, звязаны з адлюстраваннем помнікаў даўніны на ўлонні прыроды, панарамамі гарадоў ці зацішных завулкаў, з вясковымі вуліцамі ці местачковымі крамамі і г.д. Вельмі часта графічныя адбіткі назаўжды захоўваюць выгляд тых помнікаў ці мясцін, якія змяняюцца да непазнавальнасці пад уздзеяннем розных неспрыяльных абставін. Таму вельмі важна, каб такая актуальная графічная традыцыя не перапынялася і ў новым стагоддзі, калі навокал — небывалыя архітэктурныя перабудовы ды перапланіроўкі.

Бадай што самым дынамічным прыкладам гарадской урбанізацыі стаў сучасны Мінск, многія цэнтральныя раёны, прадмесці і прыгарады якога перажываюць непараўнальную будаўнічую актыўнасць. Менавіта ў гэтым эпіцэнтры архітэктурных змяненняў, на беразе Свіслачы, у раёне былой Старажоўкі, нарадзілася напрыканцы мінулага стагоддзя Марыя Дарожка, якая з дзяцінства не стамлялася маляваць мінскія пейзажныя матывы.

Расла мастачка, будаваўся і родны горад, усё вышэй уздымаліся яго шматпавярховыя гмахі, якія, здаецца, ужо засланілі сваімі мажнымі бетоннымі блокамі ўсе раней добра бачныя лясныя даляглядЫ. Але яна не пераставала захапляцца Верхнім горадам і набярэжнай Свіслачы, што побач з ім. Гэтыя матывы для яе заставаліся самымі ўзнёслымі і вобразнымі, калі яна вучылася ў 2004 — 2008 гг. у Мінскім мастацкім вучылішчы імя А. К. Глебава, а затым паспяхова паступіла на кафедру станковай графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

Яе дыпломная серыя лінарытаў 2014 г. «Гарадскія краявіды» атрымала найвышэйшую адзнаку і самыя перспектыўныя творчыя рэкамендацыі. Пачыналася яна з твора «Мінск. Верхні горад» (70,5 × 90 см). І ўражвала не толькі буйнымі памерамі, але і жывой экспрэсіўнай характарыстыкай панарамы старажытнага горада з культавымі архітэктурнымі дамінантамі і адноўленым будынкам Мінскай ратушы. Іх вежы, здаецца, працінаюць цемру нябесных хмараў і даюць святлу новага часу праліцца на гарадскія вуліцы і плошчы, дзе на кожным кроку перакрыжоўваецца гісторыя і сучаснасць.

Звычайным вокам, магчыма, гэта не ўдаецца заўважыць, але вострая графічная лінія Марыі Дарожка, як росчырк маланкі, перадае жывыя абрысы архітэктурных форм, абвастрае іх вобразны характар і стылістычныя адметнасці. Адбітак драматычнага мінулага ахінае іх густым гістарычным покрывам, а светлыя контуры выяўляюць у іх непаўторным выглядзе самае галоўнае і запамінальнае. Так і павінны выглядаць маўклівыя мураваныя сведкі гісторыі з вельмі шматзначнай графічнай характарыстыкай.

Поруч з Мінскам у першай графічнай серыі мастачкі, над якой яна працуе і пасля абароны дыплама, ствараюцца лінарыты, прысвечаныя Кіеву, Вільні, Львову, Гродна, Віцебску і іншым гарадам, велічны архітэктурны стыль якіх з выразнымі рэгіянальнымі адметнасцямі склаўся ў эпоху Барока. Таму ў аўтара была магчымасць перадаць неўтаймаваную дынаміку сваіх уражанняў ад гэтых багатых на архітэктурную спадчыну культурных цэнтраў, якія і сёння не губляюць прыцягальнасці для мастака, здольнага прачытаць творчыя пасланні з мінулага ў сучаснасць, замацаваныя стагоддзямі ў старых мурах, калонах, арках, вежах…

Марыя Дарожка цяпер не толькі стварае новыя лінарыты, але і вывучае як аспірантка БДАМ гісторыю развіцця беларускага графічнага мастацтва XX — пачатку XXI стагоддзяў. Гэты вялікі творчы досвед таксама патрабуе асэнсавання, вандровак па розных гарадах, працы ў архівах і музейных фондах. Паралельна яна збірае шматлікія дакументальныя сведчанні архітэктурнага абліччя беларускіх гарадоў, пачынаючы ад першых іх картаграфічна-мастацкіх адлюстраванняў XVI стагоддзя да архіўных фотаздымкаў, графічных накідаў і замалёвак XIX — XX стагоддзяў, якія ёй удаецца адшукаць і размеркаваць па тэмах, звязаных з аднаўленнем і рэканструкцыяй старадаўніх гарадскіх цэнтраў. У краінах свету, што ўсведамляюць вартасць свайго гістарычнага шляху, такая практыка аднаўлення ўжо не рэдкасць. Не абмінае яна, хоць і спакваля, і нашу Радзіму. Але найперш, нават надоўга апярэджваючы час, вока мастака-наватара і яго вострая графічная канцэпцыя будучыні павінна знаходзіць увасабленне ў лінарытах, архітэктурных футуралагічных кампазіцыях, дзе прыадчыняюцца новыя даляглядЫ, дзе колішняе, часта зраўнянае з зямлёю і «назаўжды забытае», ізноў велічна ўздымаецца на фоне разнастайнай архітэктуры беларускіх гарадоў XXI стагоддзя, прыведзенай да гарманічнага суладдзя з ментальнымі адметнасцямі нашага грамадства, якія заключаюцца, найперш, у жаданні мірнага, мэтазгоднага, добраўпарадкаванага жыцця з самымі шырокімі міжнароднымі зносінамі і ў шчыльным кантакце з чыстай і захаванай прыродай.

У хуткасных акварэльных эцюдах мастачкі, якія яна стварае ў Мінску і іншых гарадах, гэта актуальная ідэя знаходзіць свае вельмі трапяткія і паветраныя ўвасабленні. Архітэктура, падобна, зліваецца з празрыстым небам і канцэнтруе энергію святла, сонечных праменняў і нават асаблівую чысціню нібы пасля веснавых дажджоў. Магчыма, у недалёкай будучыні такія эстэтычныя якасці будуць больш характэрныя для гарадскога асяроддзя, чым аднастайная бетонная шэрасць у сукупнасці з халодным металам і шклом.

Мастацкія здольнасці, памножаныя на шматлікія гады прафесійнай вучобы, прыносяць вялікі плён. Марыя Дарожка вельмі ўдзячная сваім вучылішчным і акадэмічным настаўнікам: Л. В. Раманоўскаму, О. П. Раманоўскай, Г. Л. Раманоўскай, Ю. І. Хілько, П. Ю. Татарнікаву, У. М. Вішнеўскаму, У. П. Савічу, В. П. Славуку, якія дапамаглі ёй у творчым самавызначэнні і развіцці, падтрымалі першыя творчыя крокі. Цяпер яна актыўна ўключылася ў мастацкі працэс, штогод бярэ ўдзел у рэспубліканскіх і міжнародных выстаўках.

Вельмі важным дасягненнем можна лічыць экспанаванне яе твораў з архітэктурнай гісторыка-футуралагічнай сімволікай на маладзёжных «Восеньскіх салонах» 2015 і 2016 года ў Мінску, дзе ўсё толькі пачынае фарміравацца шырокая праграма творчых пошукаў новага пакалення, якое павінна ставіць перад сабой наватарскія мэты для ўдасканалення гэтага свету.

**Яўген ШУНЕЙКА**

# АДЦЕННІ ПЛЮС

Перадкалядныя дні не толькі час дабрачыннасці. Але і час цудоўных адкрыццяў. У Палацы мастацтваў традыцыйна ў канцы снежня ладзяць дабрачынныя кірмашы і выстаўкі. Але ці не ўпершыню ў рамках кірмашу для пажылых людзей ладзілася выстаўка жывапісу Зінаіды Скарабагатай «50 плюс». Сапраўды, для таго, хто ўмее бачыць і адчуваць прыроду, хто жыве напоўніцу, безліч адценняў мае кожны дзень, кожнае імгненне жыцця: дзёрзкая вясна гэта ці мудрая восень…

Здавалася б, чароўныя кветкі, сакавітыя плады… Але перад вачыма праплывае вясна з ганарлівымі касачамі, яснавокімі цюльпанамі, паўнагучнымі півонямі і бэзам, лета — з годнымі мальвамі і разняволенымі ружамі, і ўжо радуюць вока плады — гурочак, перцы, грыбы, падвосень — каліна, і безліч адценняў лістоты… Зіма. Але ж квітнеюць кветкі на акне, і радуюць падораныя букеты. А яшчэ ж лімоны і птушачка з рэзкім, як смак лімона, і ўсё ж меладычным голасам…



Зінаіда Скарабагатая «Гурочак».

Зінаіда Скарабагатая з маленства марыла маляваць. Яна са шматдзетнай сям'і, з таго самага роду, што і слынны беларускі мастак Мікола Ісаёнак. Калісьці прыехала ў Мінск з вёскі, і таму яе повязь з прыродай непарыўная. …Яна ведае, як з маленькага зернетка ўзгадаваць чароўныя кветкі і сакавітыя плады. Практычна ўсё, што яна ўвасабляе на палатне, выгадавала сваімі рукамі.

Зінаіда Скарабагатая да апошняга часу працавала загадчыцай вытворчасці ў папулярным рэстаране «Планета», можа, таму створаныя ёй вобразы адчуваеш на смак, на дотык, на водар. Яна выгадавала двух цудоўных сыноў і дачку, слынную маладую мастачку Алесю Скарабагатую, якая двойчы атрымала прыз глядацкіх сімпатый на «Восеньскім салоне з Белгазпрамбанкам». Першыя ўрокі жывапісу (унікальны выпадак) мама брала ў сваёй дачкі.

У творах Алесі Скарабагатай ёсць дзёрзкасць і вастрыня, у творах Зінаіды Скарабагатай — мудрасць, нешта ад кітайскага жывапісу. Адзін разумны чалавек адзначыў, што заходнееўрапейская культура заўжды імкнулася да ідэалу. А ідэал, калі яго дасягнеш, часцей за ўсё расчароўвае сваёй неадпаведнасцю з намаляваным ва ўяўленні вобразам. Зорка Венера — наяве планета, акружаная кіслотнымі аблокамі. Традыцыйны кітайскі і японскі жывапіс вучаць нас шукаць насалоду ў кожным імгненні, любіць



Зінаіда Скарабагатая «Свята».

жыццё такім, якое яно ёсць сёння і ніколі не будзе заўтра. Тады можна ўвасобіць імгненні гармоніі так, як гэта рабілі і беларускія мастакі з народа, так, як гэта робіць Зінаіда Скарабагатая, партрэт якой у перадкалядныя дні можна было ўбачыць пры ўваходзе ў Палац мастацтва… У яе вачах, яе ўсмешцы хавалася таямніца, якую хацелася спасцігнуць.

**Галіна БАГДАНАВА**

# ВІЗІТ НА КАЛЯДЫ:

## прывіды з аповесці Дыкенса ажываюць у тэатры лялек

**Калі згадаць дзяцінства, атрымліваецца, што Новы год — гэта не толькі ёлка, салат аліўе і пах мандарынаў, але і прадчуванне святочных цудаў, якое з'яўляецца праз навагоднія казкі, мульцікі, фільмы і спектаклі. Жахлівыя прывіды і пацешныя духі, святочныя спевы і вясёлыя гульні, калядныя традыцыі старой Англіі і, вядома, якасныя спецэфекты — такі сюрпрыз падрыхтаваў для маленькіх гледачоў Беларускі дзяржаўны тэатр лялек у спектаклі «Калядная гісторыя».**

Напярэдадні Новага года мінчане зноў сустрэліся з мастацтвам маладога рэжысёра Магілёўскага абласнога тэатра лялек Ігара Казакова. Пасля поспеху змрочнай экзістэнцыяльнай драмы «На дне» на знаёмства з аўтарскай інтэрпрэтацыяй знакамітай аповесці Чарльза Дыкенса «Калядны харал у прозе» сабралася поўная зала. «Калядная гісторыя» атрымалася прыгожай, у чымсці наватарскай і па-добраму пазнавальнай працай рэжысёра. Як і ў пастаноўках для дарослых, спрадвечная барацьба дабра са злом тут адбываецца не звонку, а ўнутры асобнага чалавека. І калі спектакль «На дне» жорстка акрэсліў хібы чалавечай прыроды, пакінуўшы пасля сябе шмат пытанняў і адчуванне безвыходнасці, то дзіцячы навагодні спектакль і вобраз Эбінэйзера Скруджа сцвярджае: ніколі не позна адкінуць агідную абалонку марыянеткі і стаць сапраўдным Чалавекам.

Выкарыстанне розных сродкаў выразнасці — лялек, відэа, праекцый — вызначыла арыгінальны сінтэтычны спектакль. Акцёры ўзаемадзейнічалі не толькі паміж сабой, але і з віртуальнай прасторай, што ўпадабляла пастаноўку да чароўнага казачнага дзеяння. У выніку ўсё атрымалася прыгожа, з новай асаблівай эстэтыкай. Часам па зале праносіўся здзіўлены выдых — так дзеці рэагавалі на нечаканыя з'яўленні прывідаў. Жаху не было — менавіта здзіўленне, а, пагадзіцеся, здзівіць малодшае пакаленне, што прызвычаілася да спецэфектаў і розных тэхнічных прыстасаванняў, не так проста.



*Сцэна са спектакля «Калядная гісторыя».*

Дзеці, якія гадуюцца на 3D-фільмах з рэалістычнымі спецэфектамі, камп'ютарных гульнях ды смартфонах, зробяць для сябе адкрыццё: якасныя спецэфекты сустракаюцца не толькі на экранах кіназалаў, але і ў тэатры. Мастак-пастаноўшчык, лаўрэат Нацыянальнай тэатральнай прэміі Таццяна Нерсісян зноў прадэманстравала высокі ўзровень валодання сцэнічнай прасторай. У яе афарбоўцы сцэна Тэатра лялек стала падобнай да выяў з навагодніх паштовак: пушысты снег, празрыстае неба, агеньчыкі ў вокнах ды святочная атмасфера.

Не абышлося і без фрагментаў знаёмай стылістыкі спектакля «На дне»: на пачатку дзеяння лялечны Эбінэйзер Скрудж нагадваў жахлівых персанажаў экзістэнцыяльнай драмы. Схаваны ў цесную каморку, бы чэхаўскі «чалавек у футляры», ён злосна глядзеў на святочную мітусню навокал. «Мама, глядзі, зомбі!» — узрушана пракаментаваў хтосьці з маленькіх назіральнікаў. Папулярнасць мульцікаў «Жах перад Калядамі» ды «Караліна ў краіне жахаў», анімацыйных фільмаў Ціма Бёртана ды іншых прыкладаў «жахлівай» мультыплікацыі сведчыць пра тое, што апошнім часам спалохаць хлопчыкаў і дзяўчынак складана. Сучасныя дзеці прызвычаіліся да агіднага выгляду шматлікіх тэлегерояў, таму назіраць за пераўтварэннем Эбінэйзера ў звычайнага, светлага, прыгожага чалавека, які разам з брыдкай абалонкай пакінуў сквапнасць ды мізантропства, нават карысна. Юны глядач бачыць, што гіпертрафіраваная агіднасць — не норма, а вынік душэўнай чэрствасці і дрэнных учынкаў. Падчас спектакля дзеці сталі сведкамі духоўнага ачышчэння і трансфармацыі галоўнага персанажа. Дзякуючы сцэнічнай мове — літаральна.

Акцёры мінскага тэатра лялек забяспечылі аўдыторыі святочны настрой: пелі песні, гулялі ў сняжкі, танцавалі. Аляксандр Васько, выканаўца ролі Скруджа, зрабіў свайго героя надзвычай абаяльным. Эбінэйзер злуе, скардзіцца, сварыцца, а ў выніку выклікае ў гледачоў спачуванне і цеплыню. Няма ніякіх сумневаў, што яго персанаж заслугоўвае ўвагі калядных духаў: ён толькі заблукаў, згубіў дабрыню і веру ў цуды, але вось-вось яе адшукае. Абавязкова трэба прыслухацца да музычнай часткі спектакля, падрыхтаванай кампазітарам Аляксандрам Літвіноўскім, бо які ж атрымаецца «Калядны харал» без музыкі ды спеваў?

Асобна пазначана, што спектакль прызначаны для дзяцей ад 6 год. Пастаноўка атрымалася глыбокая, і, магчыма, некаторым хлопчыкам і дзяўчынкам спатрэбіцца дапамога бацькоў, каб спектакль стаў не проста спосабам весела прабавіць час, але і карысным жыццёвым урокам. Ці не добрая нагода для таго, каб перачытаць Дыкенса, паразмаўляць з дзецьмі пра чалавечыя якасці, сямейныя каштоўнасці ды сутнасць навагодніх свят, якая заключаная не ў дарагіх падарунках, а ў жаданні падзяліцца з іншымі часцінкай сваёй святочнасці і цеплыні?

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Квінтэсэнцыя дабрыні

## ў дзіцячым казачным спектаклі

**Зімнія святы працягваюцца і на тэатральных сцэнах: у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі адбылася прэм'ера казкі «Залатое сэрцайка». Героі спектакля абяцаюць гледачам святочны настрой і яркія эмоцыі.**

Хто з нас не ведае казку пра курачку Рабу? Яна калісьці абяцала знесці залатое яечка. Здаецца, абяцанне было выканана, бо спектакль «Залатое сэрцайка» — свайго роду працяг вядомага з дзяцінства сюжэта.

«Залатое сэрцайка» — гэта захапляльная гісторыя пра незвычайнае сяброўства, лёсавызначальныя ўчынкі і наіўнасць жывых істот. Героі спектакля — хітрая Ліса і някемлівы Воўк аб'ядналіся дзеля таго, каб спусташаць куратнікі. Але ў адным з куратнікаў іх напаткала дзіва: яны скралі залатое яйка, якое, як мы ведаем па казках, абавязкова сведчыць пра цуды. Ліса і Воўк, упэўненыя ў тым, што з яйка з'явіцца цуда-курыца, якая забяспечыць іх залатымі яйкамі, толькі апасля зразумелі, што штосьці ідзе не так...

Са з'яўленнем неверагоднага, цікаўнага Кураняці лясныя жыхары пачынаюць вызначаць яго лёс: з'есці ці выхаваць? Канечне, у гэтай гісторыі ёсць месца для дабрыні, а ў злачынцаў Воўка і Лісы ёсць шанец стаць больш сардэчнымі і клапатлівымі.

Спектакль пастаўлены па матывах казак Уладзіміра Арлова — вядомага савецкага дзіцячага паэта і драматурга. Па яго п'есе-казцы «Залатое кураняці» быў зняты мастацкі фільм, а пасля — і аднайменнае анімацыйнае кіно. Сёння гэты сюжэт дапамог і ў стварэнні тэатральнай пастаноўкі «Залатое сэрцайка».

Аўтарам і рэжысёрам-пастаноўшчыкам інтэрактыўнага спектакля стала Святлана Навуменка, а ролі выконваюць вядомыя беларускаму гледачу акцёры — Гражына Быкава, Марат Вайцяховіч, Ганна Аксяненка, Надзея Цвяткова, Кірыл Навіцкі і Антаніна Дубатоўка. Перадкалядны паказ спектакля адбудзецца сёння, 6 студзеня.

Гісторыя абяцае быць яркай, вясёлай, дынамічнай — тут гледача чакаюць песні, танцы і музыка. Дарэчы, «Залатое сэрцайка» будзе цікавым не толькі маленькім наведвальнікам, але і дарослай публіцы. Бо часам дарослым таксама варта павучыцца дабрыні, любові і пачуццёвасці, а «Залатое сэрцайка» — квінтэсэнцыя дабрыні.



*Сцэна са спектакля «Залатое сэрцайка».*

Наогул, спектакль займае важную нішу не толькі для тэатра, але і для гледача: дзіця не толькі атрымае асалоду ад цікавага сюжэта і неверагодных герояў, але і знойдзе зярняткі дзіцячай мудрасці — бясцэнныя веды.

Асабліва гэта важна падчас Каляд, калі маленькі глядач яшчэ больш верыць у тое, што адбываецца на сцэне. На жаль, не кожны айчынны тэатр прадстаўляе такую магчымасць: казачных спектакляў для навагодніх канікул нашым дзецям так не хапае!

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Знайсці ключ да галаваломкі

## Разумны глядач для стужак маладога рэжысёра

**Пакуль многія айчынныя рэжысёры выбіраюць шлях кінашкол ды курсаў, Нэла Васілеўская вучыцца ў Акадэміі мастацтваў. Яе фільмы бралі ўдзел на сёлетнім «Лістападзе», яна станавілася адной з пераможцаў «*Bulbamovie*», за стужку «Тата» атрымала Гран-пры фестывалю «Милосердие.doc», а зараз здымае кіно ў новым для сабе жанры — меладрама. У стужцы «Тата» рэжысёр рашуча выказалася пра асабістае: падзялілася гісторыяй пра сваіх дзядулю і маці. Наўрад ці здагадаешся, што такую глыбокую і ўзважаную стужку зняла маладая ўсмешлівая студэнтка.**



*Нэла Васілеўская.*

### ІНТЫМНЫЯ МЕСЦЫ

«Мой брат», які ўдзельнічаў у сёлетнім нацконкурсе «Лістапада», — фільм і выдуманы, і рэальны аднachасова. Тэма дзіцячай рэўнасці зацікавіла рэжысёра. Яна назірала за сабой і ўзгадвала ўражанні: «Я спрабую крыху прэпарыраваць свае асабістыя матывы. Але, зноў жа, у кантэксце гісторыі. Фільм — гэта фантазія. Проста ў галаве з'явіліся героі і пачалі гаварыць адзін з адным».

Распавядаючы пра каханне сябровак і неіснуючых хлопчыкаў, Нэла Васілеўская не забываецца паказаць гледачу і сябе. Рашучы крок — распавесці з экрана пра інтымнае — стаў фільмам «Тата». Гэтая стужка была заданнем рэжысёра ў Акадэміі мастацтваў — трэба было зняць дакументальнае кіно: «Я доўга думала і зразумела, што, за якую б тэму ні ўзялася, адчуваю сябе крыху злодзеем, бо забіраю асабістае жыццё людзей. А што паказваю свайго, інтымнага? Я таксама павінна быць шчырай, таму рашылася зрабіць кіно пра сябе, пра сітуацыю, якая склалася ў маёй сям'і. Хочацца, каб яна стала рэзанансная і для іншых, бо праблема, якая ў стужцы ўздымаецца (праблема догляду за старымі на належным узроўні), стаіць вельмі востра. Думаю, калі б я не рашылася на гэта, то не зняла б дакументалку наогул».

Адна справа — зняць, другая — паказаць. Для рэжысёра гэта было яшчэ цяжэй — падзяліцца асабістым з гледачамі ў кінатэатрах. Але Нэла адзначае, што адносіны з гледачом у яе вельмі цёплыя, прызнанне нашмат больш каштоўнае, чым фестывальныя статуэткі: «Калі пасля паказу да мяне падыходзіць глядач, ён можа нічога такога і не сказаць, але бачна, што стужка яго зачапіла. Вось гэта вельмі важна, гэты кантакт. Узнагароды, канечне, таксама каштоўныя, але ўжо ў сферы заўважнасці — гэта хутчэй для бізнесу, каб заявіць пра сябе».

Нэла Васілеўская ва ўсіх відах кіно адчувае сябе свабодна. Галоўнае — знайсці тэмы і герояў. Наконт жанраў кажа, што ўсё залежыць ад цікавасці: дзе будзе падабацца, там яна і будзе «кайфаваць» ад сваёй працы.

### ЗМАГАННЕ ЗА ФІЛЬМ

Існуе стэрэатып, што кіно непасрэдна звязана з прыгожым жыццём. Кшталту чырвоных дарожак і прэмій «Оскар». Нэла лічыць, што калі хтосьці хоча ісці ў кіно дзеля гэтага, то лепш забыцца: «Я сяджу вось тут, на "Беларусьфільме", каля навагодняй ёлкі, а не іду па чырвонай дарожцы. Насамрэч, фестывальнае жыццё — гэта 2% з таго, з чым сутыкаецца кінематаграфіст. Бясконцы пошук ідэй, грошай. "Прыгожае" жыццё мае месца толькі пасля напружанай, але вельмі насычанай момантамі (якія часам нават лепш за чырвоныя дарожкі) працы».

Калі пасля гэтых слоў жаданне быць рэжысёрам яшчэ не знікла, то варта памятаць, што кіно не знімеш без вялікага жадання. Нэла кажа, што гэта банальная, але праўдзівая рэч: многія хочуць, але не многія робяць: «Хтосьці прыгожа сказаў, што "хацець трэба больш, чым баяцца". Для справы кіно — вельмі трапны выраз. Калі чалавек рашуча настроены зняць кіно, магу яго ўпэўніць, што зрабіць гэта можна і без вялізнага бюджэту. Наша краіна адкрытая да таго, каб у ёй здымалі. І людзі добразычлівыя, заўсёды адгукаюцца, калі трэба нешта паздымаць».

Як бы там ні было, адна добразычлівасць у здымках не дапаможа — кіно непасрэдна звязана з грашыма. Але дзяўчына не разумее тых, хто скардзіцца на недахоп сродкаў, таму, хто да гэтага не гатовы, наўпрост не трэба ў кіно ісці: «Пошук грошай — натуральны працэс, да гэтага прывыкаеш. Калі сродкаў няма — напішы сцэнарый, які не патрабуе вялікіх выдаткаў, зараз яшчэ ёсць пітчынгі і краўдфандынг. Акадэмія мастацтваў не вылучае шмат грошай на фільмы, таму свае вучэбныя стужкі мы здымаем за ўласныя сродкі ці спрабуем выйграць тэндары».

Да апошняга змагацца за стужку — вось што чакае рэжысёра. А яшчэ словы кшталту «кіно як мастацтва памірае». Да гэтага таксама трэба быць гатовым. Нэла ўзгадвае, што кіно задумвалася як атракцыён, і, дзякуючы галівудскай вытворчасці, гэтай задуме адпавядае: спецэфекты, прыгожыя акцёры і нічога больш: «Я хачу верыць, што кіно не памірае — я жсюды прыйшла! На фоне гэтай махіны, якая дыктуе нам вяртанне да вытокаў кінематографа, складаецца адчуванне "смерці" кіно. Але прыгожыя працы іншых рэжысёраў даказваюць зваротнае: кіно — гэта мастацтва».

Права на існаванне маюць стужкі розныя — усё ж мэты паходаў у кіно таксама адрозніваюцца. Цяжка сказаць, якая аўдыторыя ўбачыць фільм, хоць рэжысёры і маюць на ўвазе пэўнага гледача. Нэла лічыць, што для кінематаграфіста важна быць шчырым, а не разлічваць на «правільную» аўдыторыю: «Я шукаю свайго гледача — не думаю, што я мэйнстрымны рэжысёр, але прыйшла да высновы, што маё кіно павінна быць зразумелым, а не дэманстраваць расхрыстанае падсвядомасці на экране. Да такога кіно глядач урэшце згубіць інтарэс. Кіно павінна быць даходлівым, але пакідаць прастору для думак, чаго многія стужкі зараз, на жаль, не робяць. Мы самі распесцілі гледача — яму не трэба ўсё тлумачыць: глядач насамрэч шмат разумее».

Добраму гледачу — добрае кіно, упэўнена Нэла. Беларускай аўдыторыі неабходныя такія стужкі — добрыя ад задумы да рэалізацыі: «Фільмы пра сучаснага чалавека, бо хапае сацыяльных праблем, якія чакаюць, каб пра іх распавялі. І гэта мусіць быць нешта агульначалавечае, а не толькі беларускае: калі гэта будзе пазнавальна, калі беларус знойдзе ў гэтым сябе — выдатна. Гістарычных тэм, якія просяцца на экран, таксама хапае. Ф. Скарына, Е. Полацкая, У. Чарадзей — каларытныя персанажы, пра якіх можна і трэба здымаць. Кіно павінна выходзіць на агульначалавечы ўзровень».

Тэмы для сваіх стужак рэжысёр шукае паўсюль. Тэма для яе — рэч першарадная. А ідэю новай стужкі падказала сяброўка — закахалася па інтэрнэце: «Для мяне было цікавым папрацаваць у жанры меладрамы, гэта незвычайна. Мая ніша — драма, і я там камфортна сяджу. Але трэба выводзіць сябе з зоны камфорту, правяраць, ці можаш зняць штосьці абсалютна іншае. Калі я адчуваю, што зачапілася за тэму, добра ў ёй разбіраюся, то гэта для мяне быццам дэградацыя — трэба шукаць нешта новае, што ўводзіць у лёгкі ступар, а пасля выводзіць з яго».



*Кадр з фільма «Сябры па перапісцы».*

### АДУКАЦЫЙНАЕ ПЫТАННЕ

У Акадэміі мастацтваў студэнты здымаюць кіно з першага курса — інакш рэжысёрам і нельга. Як навучыцца рэжысуры ў тэорыі? Нэла кажа, што менавіта на здымках пачынаеш разумець працэс: «У нас не было адладжанага механізму з прадзюсарамі і сцэнарыстамі — з самага пачатку студэнты ўсё робяць самі. І гэта карысна, бо зараз я ведаю ўсе зярняткі, з якіх складаецца фільм».

Дзяўчына адзначае, што асабіста ёй адукацыя была патрэбная. Зараз шмат прадстаўнікоў прафесіі, якія і без прафільнай адукацыі ствараюць добрыя кінастужкі: «Магчыма, для чалавека, які вельмі хоча здымаць кіно, адукацыя іграе другасную ролю, але ўласна я хачу мець нейкую ўпэўненасць. Дзесьці на Захадзе я б выбрала іншы шлях — здымачныя пляцоўкі, дзе можна практыкавацца, назіраць за рэжысёрамі, вучыцца ў мэтраў, гэта дакладна дапамагло б больш, чым тэарэтычныя веды».

Пра беларускую кінаадукацыю сказаць можна шмат, айчынная кінашкола выхавала выдатных рэжысёраў, але зараз ёй дакладна патрэбная мадэрнізацыя, адзначае Нэла. І ў тым ліку чалавечая: «Новыя людзі, якія б уздымалі айчынную рэжысёрскую адукацыю на ўзровень еўрапейскай. У нас, безумоўна, ёсць майстры, але сістэматызаванай базы — ад мантажу і да драматургіі — няма. Але ёсць інтэрнэт і магчымасці, якія дазваляюць патрэбную інфармацыю знайсці, пры жаданні нават павучыцца практычна. Калі чалавек хоча, знойдзе веды дзе заўгодна».

Кожны рэжысёр павінен самаадукоўвацца — без гэтага нельга, упэўнена Нэла Васілеўская. Для рэжысёра кожная новая праца — вялізны працэс самаадукацыі. Для свайго новага фільма рэжысёр доўга працавала над кантэкстам: шукала інфармацыю ў інтэрнэце, пыталася ў знаёмых. Але акрамя таго, што кінематаграфіст павінен быць падкаваным у абранай ім тэме, трэба развівацца і прафесійна.

Нэла Васілеўская кажа, што кінакурсы — выдатная магчымасць для тых, хто не гатовы аддаць 5 гадоў жыцця ўніверсітэту, але калі сама Нэла паступала ў Акадэмію мастацтваў, кінакурсы такімі папулярнымі не былі: «Курсы не наведвала, таму не магу сказаць пра іх узровень. Там таксама можна павaрыцца ў гэтым "кінабулёне" і зразумець: кіно — тваё ці не. Не лічу гэта сур'ёзнай адукацыяй, але штуршком для разумення, куды ісці далей, — дакладна».

Але на гэтым вучоба кінематаграфіста не заканчваецца. Паходы ў кінатэатры, фестывалі, прагляды фільмаў дома… Глядзець кіно і бачыць у ім працу рэжысёра — «прафесіянальная хвароба» Нэлы (ды і, хутчэй за ўсё, рэжысёраў наогул): «Я атрымліваю асалоду ад праглядаў фільмаў, але не магу абысціся без адзнак. Гэта два паралельныя працэсы, якія ідуць поруч: ад думкі "што за дэкарацыя?" да "вау! Як шыкоўна гэта знята!"».

Па стужках Нэлы Васілеўскай няцяжка здагадацца, што ёй падабаюцца фільмы Таркоўскага. На першым курсе ён быў у топе яе любімых рэжысёраў, але зараз у гэтым спісе іншыя — Трыер, Ханеке, Бергман, Кіслёўскі. Дзяўчына кажа, што гэта «яе» рэжысёры, яна заўсёды да іх вяртаецца, пераглядае, чытае іх кнігі і інтэрв'ю: «Для мяне гэта мэтры. Але я вучуся і ў невядомых стужак, рэжысёраў — яны таксама могуць многае даць».

Сярод таго, чаму можна павучыцца ў іншых, — іх «фішкі». Нэла адзначае, што многія лічаць прысвойванне чужых «фішак» данінай павагі рэжысёру. Але ўласна ёй здаецца, што лепшы шлях — натхняцца, каб чужая праца падштурхоўвала на нешта новае, сваё: «Хай ты дзесьці ў глыбіні і прысвоіш сабе нешта, але на экране ўбачаць цябе. Думаю, у кіно трэба шукаць тое, што не раскрыта».

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Недзе побач

*На сваёй струне*



***— Хіба ты зможаш памыць маю спадніцу? — запыталася я ў хлопчыка, які неабачна пакінуў брудныя пісягі ад чаравікаў на маім святочным строі. Хлопчык схаваў твар у шапку і адвярнуўся да бабулі. Дзень пачынаўся няўдала.***

***Панарама маркотных юначых твараў у метро, схаваная ў навушнікі здольнасць чуць і бачыць, іх калені, якія амаль упіраліся ў цяжкія валізкі жанчын, толькі пацвердзілі трывожны прагноз, красамоўна трансляваны праз брудныя чаравікі хлопчыка.***

Калядна-навагоднія дні. Калядна-навагоднія ўсмешкі, здагадкі, згоды. Позіркі палахлівыя ўцякаюць ад паглядаў урачыстых і светлых. Вакол людзі, людзі, людзі, іх словы, словы, словы… Няўцешныя спробы растлумачыць іх сэнс. Штурханіна шэрых паліто, мільгаценне ссунутых набакір, незразумелага паходжання, шапак, парад разнамасных патыліц, між якіх мкнешся праціснуцца, каб рухацца далей, вітацца, стаяць-чакаць, наракаць на слату, крыўдлівае надвор'е, ненадзейныя сходы. «...Жыццё нашмат шпарчэйшае за твае думкі, яно выслізгвае паміж пальцаў у імгненне, і ты зноў нічога не разумееш...» (С. Ахерн).

Недзе побач — прадчуванне глыбіні. Нязграбным мядзведзем варушыцца яе набліжэнне: да жыцця прымошчваецца нешта ўтульнае, святочна-радаснае, цёплае. Ціхім сінічкавым прысвістам шматкроць паўторанае «с-т-р-в» ператвараецца ў «Святое Раства радасць прынясло…», булькаценне-каляхценне няспыннага «к-л-д-н» нараджае «а калядныя бліны ладныя…».

Непадзельнае павуцінне падзей паглынае нязлоўленае слова, заклапочаную засяроджанасць, абрысы формул, красамоўную цытату, абсурдны вопыт, метафізічныя дапушчэнні. Запаволеныя часам, плывуць нечыя думкі — залацістыя, прамяністыя, закручаныя ў пасмы, абцяжараныя ўласнымі вузламі. Думкі перайначваюцца ў мелодыі, незавершаныя фразы. Некаторыя з іх набываюць колер і выяўляюць фрагменты невядомых карцін. Іншыя смешна ажываюць і ўзлятаюць, некаторыя з іх коўзаюцца пад нагамі.

Сярод гаманы і беспараднасці зрушваецца рэальнасць. Плывуць дамы, вокны ў іх, плыве цеплыня, узятая імі ў палон, плывуць кветкі на падаконнях, гукі скрыпкі, палымяны шэпт жаночага голасу, дзіцячы радасны віскат… Рознагалосіца ўладарыць і зачароўвае. Яна дасягае сваёй мэты раней, чым самая вострая думка, — імгненна знаходзіць тоеснае і роднае, зрушвае сапраўднае — магічнае сутнаснае, — вабнае сваёй прысутнасцю і нераскрытай таямнічасцю. Слых, які дазваляе пачуць адзін і той жа твор у розных стагоддзях нібы ў розных танальнасцях. Салодкае вар'яцтва супадзення.

## Салодкае вар'яцтва супадзення

Адзін крок да салодкага вар'яцтва — уверцюра Ёзэфа Гайдна да сваёй оперы «Стварэнне свету». Першыя сугуччы, даўжыня і расстаноўка першых акордаў абвяшчаюць змену часу. Акрэсліваюць сучаснасць. Васямнаццатае стагоддзе — на даўжыні працягнутай далоні ад дваццаць першага. Замест матэрыі. Разгортванне спіралі ДНК. Пульсацыя-рытм. Прадчуванне змяшчэння акцэнтаў, несупадзенне сэнсаў па вертыкалі і гарызанталі — ашалелы позірк Жызэлі ў канцы 1-га акта. Жызэль у разуменні ссечанага і зрушанага з восі свету. Жызэль у прадчуванні пачатку свайго вар'яцтва і сустрэчы з вар'яцтвам свету. Гайдн і Жызэль. Паглынаюць тое вар'яцтва і той свет. Позірк і паварот галавы Вольгі Спесіўцавай (сёння — Веранікі Шамонінай), прапісаны музыкай, — нечуванай кантыленай у высокіх скрыпках.

## Надзейная абарона

Бесперапынны клопат, з дробнымі абавязкамі і абяцаннямі, увішна ўвабраны ў адну вязанку з завіханнямі і адказнасцю, — надзейная абарона ад пагружэння ў роздум. Адплываць на дальні план і саступаць месца нязвычнай запаволенасці, разважлівасці, задуменнасці і супакоенасці. Нібы ўсе харалы Баха агучваюцца старанным намаганнем, распадаючыся на мноства рознааддаленых гучанняў. Празрысты спеў паглынаецца арганным напружаннем, пяшчотны голас габоя завісае пранікнёнай цытатай і доўжыць асалоду. Нехта прыпыніўся, нехта азірнуўся, нехта схамянуўся. Кожны пачуў і пазнаў. Пазнаў і пабег далей. «Няма жыцця — прыдумай, няма зрушэння — ствары!» і «на Бога спадзявайся, але й сам старайся!».

Сёння — Каляды. І кожны раз — як упершыню. Бесперашкоднае і безупыннае колаўрачэнне адзінага і шматлікага — танец Часу і Вечнасці. Недзе тут, зусім побач, нараджаецца і множыцца рознагалосіца няўцямных і непраяўленых спеваў, гукаў, зыкаў, грукату і пошчаку. Ажывае Музыка. Музыка новага дня.

Адноўленая, узнёслая, снежная, з завірухамі і сінічкамі музыка, шчыруе суботняй птушкай пра далёкае невядомае. Гэта — табе. Табе — падарунак. Зімовыя дні, загадкавыя вечары, непраўдзіва зіхоткія зоркі і надзіва глыбокае неба — належыць табе. Бязважка-няўлоўнае, непрыдатнае для штодзённага ўжытку, але такое неабходнае для навагодняй радасці, такое каштоўнае і па-анёльску набліжанае, яно звініць калядным звонам і маўчыць ціхім святлом, затрымаўшыся бесперапынным снегам над тваімі справамі, клопатамі, завіханнямі. Тое, што цешыць, тое і супакойвае. Тое, што гайдае, тое і ўзносіць. Шэпча, што ты не кінуты, ты не адзін на навагоднім адмежку часу. Звініць недзе далёка і для цябе яе агністыя званочкі, народжаныя спраўнымі Анёламі.

Засталося зусім трошкі: набрацца цярпення і чакаць, калі надыдзе тая адзіная хвіліна, дзе пульсуючае імкненне волі сустрэне форму і гэтым з'яднаннем абазначыцца пачатак мастацтва... Нараджэнне музыкі, як нараджэнне дыяменту, — з цішыні. З напружанай чысціні. Матэрыя, што чакае майстра, чакае жорстка акрэсленай формы — упарадкаванай і арганізаванай.

Тчэцца недзе і для цябе празрыстае павуцінне мрой-надзей. Заўтра, з пахмелля бяссонніцы, лёгкай рукой ты легкадумна здымеш іх з нотнага аркуша, напалохаўшы сініц і гілёў, што ўгрэліся дробнымі сі-бемолямі і фа-дыезамі, паўзамі і ферматамі. Нотныя жмені складуцца ў навагоднюю музычную калядку і збяруць пад музычнымі акаладамі ўсю нерастрачаную пяшчоту мінулага года, нераздадзеныя ўсмешкі і спагаднасць. І ў цiхім доме побач з табой мякка скруціцца, нібы кот Марцін, увесь сусвет, музыка ўсіх нябёсаў, сугуччы начных планет, усё зямное хараство і залаты пыл чалавечай міласці. Дыялектыка завісне ў паветры і прайграе той досвед, які сама і аздобіла.

Ноч абганяе дзень, амаль заглынаючы яго. Віхуры хаваюцца ў завулках і танчаць на плошчах. Сонечныя дні — лёгкія, чыстыя і светлыя. Празрыстыя. Студзень-дырыжор абвяшчае свой трыумф, дэманструе сваю трактоўку зімы, прапісвае будучыя тэмы імклівай Уверцюры. Студзень расчыняе вокны. Вокны іншаслыху і іншабачання. Студзень-мастак шукае ісціну. Губляецца сярод снегавой залевы і заблытваецца ў вузлах завулкавых віхур.



Канцэртная зала «Верхні горад».

## Бяссонніца

Свет зрабіўся круглым, завершаным і адзіным. Апошні канцэрт года адгучаў. Сціхлі сцены. Сцішылася сцэна. Заснуў узрушаны арган. Стомленае крыло апусціў раяль — выдыхнуў рэшткі апошняга акорда праз залацістыя струны. Уздрыгвае срэбным гукам клавесін. Арпеджыа Скарлаці ветліва спыняюцца перад выкшталцонымі фіярытурамі Куперэна. Струны ўзбуджаны. Чорныя клавішы ўсхваляваны белымі! Бяссонніца! Звычайна, перасунуты ў закутак сцэны, ён дрэмле да з'яўлення Гендэля, Баха альбо Шнітке, а тут, адкрыты наросхрыст, мусіць сам уздымаць важкія пасажы Букстэхудэ, абуджаць мелодыі Шуберта, закручваць віры «Францэскі» і стрымліваць хвалістыя вальсы Штрауса.

«Вада можа закіпаць і замярзаць, а ідэя — не», — казаў Платон. Музыка чароўнай ночы, акрэсленая дакладнасцю свайго абрысу, здольная закіпаць гарачымі эмоцыямі згоды і замярзаць непражытымі пачуццямі… Не пустэча — цішыня. Калі размаўляеш музыкай, гаворыш не толькі пра яе. Бывае множыцца ў бяздонні тваёй сутнасці. Лёгка верыш, што мары — «зусім не адыход ад рэальнасці, а сродак наблізіцца да яе» (Э. Джэксан).

**P. S.** Калядна-навагоднія дні калі-небудзь скончацца. Адзвіняць гімны і віншавальныя званы. Святочныя нечаканасці спраўдзяцца. Таямнічая варажба вернецца ў зорнае возера…

Новы год пратупае заснежанымі сцежкамі, здзіўляючы нас і шчодрым снегам, і такім далікатным марозам: і змерзнуць не паспееш, і расчараваным не будзеш.

У чароўную «торбу» Новага года патрапяць самыя лепшыя імгненні першых дзён.

Яны завіснуць нябачнымі «сталактытамі» на снежных вуліцах, у даўкім метро, каля нашых вокнаў і дзвярэй. Яны не перастануць быць у нашых мітуслівых днях, неабавязковых размовах, нашых хваляваннях і спадзяваннях, трымценнях і сумненнях. Музыка лёгка прывядзе ўсё да ладу. Стрымае вытанчанай патрабавальнасцю, адхіне дробную беспарадкасць. Варта толькі дачакацца вечара — і мы зноў з музыкай Яна Голанда і Міхала-Клеафаса Агінскага, Станіслава Манюшкі, Напалеона Орды.

Кожны атрымлівае права на сваё разуменне, сваё адчуванне імгнення, сваю, музыкай падсвечаную, захмараную частку духа. Застаецца мройнасць формы, адчуванне нявызначанасці, бязмежна адзінкавай суб'ектыўнасці, якая больш належыць нам, чым сутнасці музыкі. Так мы размаўляем з сабою. Так мы размаўляем з сабою. Шукаем. Знаходзім. Ці не пра тое распавядаў Майкл Ньютан, захапляючыся музычнай мовай гелатыянтаў, якая плыве сярод разбураных касмічных караблёў і спустошаных вуліц?

...І набярэ зямля сваю сілу, і ўвойдзе ў моц, і разліе шчодрымі дарункамі па ўсіх абсягах сваіх. Адгукнецца ў Сусвеце рытуальнымі бомамі і набрынялай гукавой поліфанічнасцю.

Музыка.

Ніколі не скончыцца.

*…то ж як давесці вам, што творчасць —*
*гэта гонар*
*у першым вымярэнні,*
*калі нібы ляціш*
*адзін, без папярэдніх, адзін, без эпігонаў,*
*а навакол — трымценне, падобнае*
*на ціш…*

**(Б. Жанчак)**

**Ларыса СІМАКОВІЧ, кампазітар**

## Сімфанічнае:

Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь запрашае адсвяткаваць «Новы год у філармоніі». Канцэрт пад такой назвай адбудзецца 14 студзеня ў філарманічнай Вялікай канцэртнай зале. У праграме — урыўкі з «Поргі і Бес», «Блакітнай рапсоды» Гершвіна, мелодыі савецкіх і еўрапейскіх аперэт 30 — 60-х гг. XX стагоддзя. Дырыжор аркестра Аляксандр Анісімаў адзначыў, што, нягледзячы на выступленні аркестра ў Пекіне, Шанхаі і іншых гарадах, музыканты не маглі адмовіцца ад сустрэчы з беларускай публікай: «У першым аддзяленні прагучыць музыка Джорджа Гершвіна "Амерыканец у Парыжы", другое аддзяленне — мора прыгожых мелодый савецкіх аперэт». Тут прагучаць творы Дунаеўскага, Мілюціна, Лістава. Абяцаюць таксама і класіку жанру — Штрауса і Кальмана.

## Барочнае:

Калядны канцэрт барочнай музыкі пройдзе 7 студзеня ў канцэртнай зале «Верхні горад». Праект «Амадэус» запрашае паслухаць музыку, якая адраджае ўспаміны. Артысты адзначаюць, што «лепшай музыкай для сустрэчы Божага Нараджэння з'яўляецца музыка Барока». Менавіта таму ў праграме вечара прагучаць творы вялікіх кампазітараў, «перліны» эпохі Барока і прысвячэнні — музыка Вівальдзі, Баха, Гендэля, Марчэла, Моцарта, Шнітке, Ітуральдэ. Дырыжыраваць будзе выпускнік Кёльнскай вышэйшай школы музыкі Валід Агаеў, салісты — лаўрэаты шматлікіх конкурсаў, вядомыя саксафаністы Корун Асатран і Сцяпан Мішула.

## Дзіцячае:

Навагодняе прадстаўленне для дзяцей «Галоўная ёлачка краіны» ў Малой зале Палаца Рэспублікі — сапраўдная навагодняя казка. Гэта святочнае музычнае прадстаўленне з чароўнымі ператварэннямі, любімымі героямі і цудамі, якое рыхтуецца дарослымі для дзяцей амаль цэлы год. Калядныя песні, вынаходлівая харэаграфія, грандыёзныя дэкарацыі і сучасны сцэнар — казка з невераготным музычным напаўненнем будзе цікавая не толькі дзецям, але і іх бацькам. Добрае святочнае прадстаўленне не толькі ненадакучліва дапаможа выхаваць шчырасць у маленькіх гледачах, але і падорыць сапраўдных, вялікіх эмоцый.

# З роварам па жыццы


Фота Вікторыі Аскера.

Ровар Лаліты Угуран-Туміловіч.

**Калі на вуліцы мароз і снег, ужо не дастанеш з кута ровар і не адправішся па шумных вулачках горада шукаць прыгожыя пейзажы, сачыць за натоўпам людзей альбо проста атрымліваць асалоду ад руху на свежым паветры. Нягледзячы на гэта, у Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў (Някрасава, 3) дэманструецца выстаўка ровараў, якія належаць беларускім мастакам, фатографам, дызайнерам. Цікавы мастацкі праект, акрамя тэхнічнага патэнцыялу, дазваляе прасачыць сувязь паміж творцамі і іх двухколымі сябрамі.**

Сапраўды, глядач прывык бачыць мастакоў зусім у іншым амплуа: творцы самі прадстаўляюць работы, расказваюць, якую думку ўкладалі ў канцэпцыю таго ці іншага экспаната, а тут наадварот: кожны ровар характарызуе, з'яўляецца люстрам уладальніка: адразу бачна, у якога ровара гаспадыня жанчына, а дзе праглядаецца мужчынскі характар. Напрыклад, ровар беларускага стыліста Лаліты Угуран-Туміловіч — сапраўдны твор мастацтва, вытанчаны і святочны. А вось фатограф Надзея Дзегцярова праз свайго двухколага сябра бачыцца вельмі энергічнай і хуткай. Чапляе калекцыя нямецкіх ровараў скульптара Данілы Цітовіча, якія былі зроблены на пачатку 1940-х гадоў.


Фота Кастуся Дробава.

Ровар Усевалада Свентахоўскага.

Экспазіцыя разнастайная: сярод экспанатаў можна ўбачыць як ровары ранніх савецкіх часоў, так і сучасныя шматфункцыянальныя, якія нават у продажы знайсці немагчыма, іх для экспанавання прадставілі спецыялізаваныя фірмы. Выклікаюць цікавасць арт-аб'екты, зробленыя самімі творцамі. Якраз у гэтым выпадку заўважнае праяўленне мастацкай натуры, бязмежнай фантазіі аўтараў.

— Гэта амаль першы такі праект у краіне. Вельмі цікава, калі мы акцэнтуем увагу на зусім нечаканых рэчах, якія не асацыююцца ў нашай свядомасці з мастацтвам, — расказала дырэктар Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў Наталля Шаранговіч. — Для нас быў вельмі добрым прыкладам праект «Пастулат», у якім Саюз дызайнераў за аснову ўзяў крэсла, якое, здавалася б, выконвае толькі бытавую ролю, і ператварыў яго ў арт-аб'ект. Гэта дазваляе пераасэнсаваць звычайныя рэчы. Мастацкае пераасэнсаванне дае зусім нечаканыя творчыя выбухі. Такія праекты, як правіла, з'яўляюцца традыцыяй у еўрапейскай творчай прасторы. Аднак для нашых арганізатараў складаным было знайсці прадмет, які б зацікавіў. Чаму ўсё-такі ровар? Зіма і ровар — здаецца, несумяшчальныя рэчы. Мы сутыкнуліся з тым, што велізарная колькасць мастакоў і дызайнераў любяць ровары: цяпер гэта нават трэнд у грамадстве. Некаторыя нашы мастакі, што маюць машыну, больш часу прысвячаюць ровару. Дзяніс Барсукоў вельмі хацеў зрабіць гэтую выстаўку: калі апублікаваў сваю ідэю ў віртуальнай прасторы, яна знайшла водгук. Многія людзі сталі пісаць, прапаноўваць свае дзіцячыя, старыя трохколыя, сучасныя ровары. Адгукнуліся фірмы, якія займаюцца стварэннем эксклюзіўных ровараў. У якасці цэнтральнага аб'екта мы выставілі экспанат, які меў поспех на «Арт-выспах» — драўляны ровар Дзмітрыя Сурскага. Летам ён выклікаў вялікую цікавасць: мноства народу залазіла на яго, спрабавалі круціць педалі, фатаграфавацца. І тады было зразумела: прадмет, які не з'яўляецца аб'ектам мастацтва, але зроблены ў нестандартным выглядзе, цікавы гледачу. Гэта своеасаблівая арт-гульня.

Ровары былі для мастакоў не толькі сродкам перамяшчэння, а яшчэ і крыніцай натхнення. Напрыклад, беларускі скульптар Генадзь Мурамцаў у савецкі час амаль не развітваўся з роварам і фотаапаратам: падарожжы дапамагалі майстру працаваць актыўна, сілкавалі энергіяй.

Арганізатары выстаўкі пабудавалі экспазіцыю такім чынам, што побач з роварамі прадстаўлены мастацкія творы, якія візуальна раскрываюць тэму падарожжаў і хуткасці. Такі мастацка-спартыўны сінтэз зараджае пэўным драйвам. Здавалася б, складана прадставіць ровары як галерэйныя экспанаты, а вось цуд — яны нясуць пэўную эстэтыку: арганічна ўпісваюцца ў прастору.

— Ровары экспануюцца з мастацкімі творамі, якія сведчаць пра хуткасць, рух. Гэта спалучэнне надае выстаўцы цікавы погляд, — адзначыла Наталля Шаранговіч. — Мы ўсё ж такі рыхтавалі навагодні праект, таму тут прадстаўлена арт-ёлка, якая зроблена з колаў ровара. Той прыклад, калі можна гуляць абсалютна з розным матэрыялам. На сёння арт-дызайн — адзін з найбольш перспектыўных кірункаў сучаснага мастацтва. Вядома, нельга забываць пра фатаграфію, канцэптуальнае мастацтва, але арт-дызайн блізкі і зразумелы простым людзям, у мастацкіх аб'ектах ёсць доля здаровага гумару. Мы, можа, гэта не ўсведамляем, але, калі выходзім на вуліцу, трапляем у свет творчых думак, дзе сцены дамоў, плакаты, рэклама, ліхтары — прадукты арт-дызайну.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Культурны ракурс

**Вялікі дзякуй, шаноўныя чытачы, за ўвагу да нашага конкурсу, дзе кожны мог падзяліцца ўражаннямі ад сваіх вандровак і знаёмстваў з гісторыяй, нечаканымі адкрыццямі і адчуваннямі цеплыні і ўдзячнасці да славутых асоб, што паўплывалі на развіццё беларускай культуры. Гэты праект і задумваўся дзеля таго, каб мы не проста фіксавалі культурныя з'явы, а дапамагалі лепш усвядоміць адзін аднаму нашы каштоўнасці і набыткі, зірнуўшы на іх з новага ракурсу.**

**Дзякуючы вам, нашы чытачы, «ЛіМ» здолеў ахапіць (геаграфічна) усе рэгіёны Беларусі і нават адлюстраваць знакавыя для нашай краіны кропкі і помнікі па-за яе межамі. Ваша актыўнасць дазволіла нам выбіраць фотаздымкі больш прыгожыя, зробленыя з цікавых мясцін, дзе праглядае гісторыя — багатая, адметная, часам драматычная, пра што таксама забываць не варта ў сённяшняй рэчаіснасці. Але што асабліва парадавала падчас конкурсу: вялікая колькасць фотаздымкаў была скіраваная ў будучыню дзякуючы прысутнасці на іх вашых блізкіх ці выпадковых людзей з зацікаўленасцю ў тварах, маладых актыўных асоб ці дзетак, якія толькі пазнаюць свет. Нас, вядома, цікавіла не проста адлюстраванне нейкага месца, помніка ці аб'екта культуры, але і іх эмацыйнае ўспрыманне героямі фота, па ім было бачна: яны сталі і часткай вашай асабістай гісторыі.**

**Гэтымі крытэрыямі мы кіраваліся, вызначаючы пераможцаў.**

### 1-е месца

**Фота, зробленае Алегам Грушэцкім падчас «Восеньскага салона», дзе маленькае дзяўчо прыглядаецца да скульптуры каня (№ 2, 2016 г.).**

### 2-е месца

**Здымак Кацярыны Харытонавай, дзе сучасная моладзь натхняецца веліччу Нясвіжскага палаца (№ 19, 2016 г.).**

### 3-е месца

**Фота, дасланае Таццянай Гусевай: малады чалавек з пасёлка Зялёны Бор Канстанцін Дунаеў, што жыве і працуе ў Маскве, ля помніка Янку Купалу ў кашулі з нацыянальным арнаментам (№ 13, 2016 г.).**

**Здымак, дасланы Анастасіяй Весялухай-Волкавай: палёт, натхнёны Маркам Шагалам у Віцебску (№ 4, 2016 г.).**

***Усе пераможцы будуць адзначаныя падарункамі. Чакаем вашых тэлефанаванняў па нумары ў Мінску: 2-92-20-51.***

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 5.01.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1637.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004 г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Індэкс 220013

Заказ — 185

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686